

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 17 жніўня 1990 г. № 33 (3547) ● Цана 10 кап.**


## ЯШЧЭ АДНА «БІТВА»?

Сёння мы, аддаючы даніну традыцыі, публікуем фотаздымак, зроблены на жніве. Наш пазаштатны фотакарэспандэнт А. Кляшчук, які прынёс яго ў рэдакцыю, прапанаваў і «не банальны», па яго словах, подпіс пад здымкам: «Сняданак механізатараў». «Бачыце, — дадаў ён, — адзін з іх выцірае з твару пот. Не шкадуюць людзі сябе...»

Сапраўды, не шкадуюць... Ці то сёлета як *па заказе* грэла сонейка і ішлі ў час дажджы, ці то пастараўся Ягор Кузьміч Лігачоў на сваёй пасадзе старшыні аграрнай камісіі ЦК КПСС, а мо і проста насуперак поспехам нашага слаўнага калгасна-саўгаснага ладу, але ўраджай выспеў, што па ўсёй краіне, што на нашай Беларусі, не тое што выдатны—нябачаны!

Здавалася б, па чалавечай логіцы, зыходзячы са здаровага сэнсу, трэба гэтай акалічнасці, пры нашых пустых паліцах, бязмерна радавацца. Але Ураджай (я дазволю сабе напісаць гэтае слова з вялікай літары) з усёй вастрынёй выявіў параліч нашай адміністрацыйна-каманднай сістэмы, фактычна яе няздольнасць валодаць сітуацыяй. Жах ахоплівае, калі глядзіш на зафіксаваныя газетнымі фотакорамі, тэлеаператарамі ссыпаныя на дарогах, на жывёлагадоўчых пляцоўках, проста ў *полі* манбланы залатога збожжа, значнай частцы якога (падлічана: 40 мільёнам тон, стольκі, колькі купляем на «пачварным» Захадзе), наканавана зглуміцца.

Як гэта ў нас робіцца, пры любым правале пачынаецца пошук вінаватых — міністраў, падміністраў, кіраўнікоў ніжэйшага рангу, якія «не паклапаціліся, не прадугледзелі, не *прад*бачылі, не мабілізавалі» і г. д. і да т. п. Але хоць сто разоў наш, як кажуць, самы прыгожы і элегантны прэм'ер-міністр у свеце Мікалай Іванавіч Рыжкоў будзе збіраць Прэзідыум Савета Міністраў СССР, на якім тэлевізійныя юпітэры высвецяць на ўвесь свет абыякавыя твары міністраў, якім і сказаць няма чаго,—нічога не зменіцца. Бо справа не ў пажарных мерах (днямі чуў па радыё інфармацыю аб тым, як у адным раёне

**(Працяг на стар. 4).**

За апошнія гады мы неспадзеўкі ўбачылі і зразумелі, што «новая гістарычная супольнасць— савецкі народ» — не такая ўжо і «маналітная еднасць», як нам даводзілі. Сёння мы ўжо зусім звычна вылучаем з гэтай «еднасці» не толькі колішніх трох кітоў — яго вялікасць рабочы клас, калгасна-саўгаснае сялянства і працоўную інтэлігенцыю, але і кааператараў, і дзялкоў ценявой эканомікі, і партапаратчыкаў, і нефармалаў, а таксама алкашоў, наркаманаў, прастытутак, бомжаў і г. д. З развіццём парламенцкай дэмакратыі былі заўважаны кансерватары і радыкалы, а неўзабаве і яшчэ два «саслоўі». Першае з іх адрозніваецца вялікай згуртаванасцю на парламенцкіх лавах і шчырай адданасцю метадам мыслення «а-ля асфальтавы каток»: загадаюць — раструшчым. У нашым рэспубліканскім Вярхоўным Савеце яно мае цвёрдую квоту (і зусім не малую) і ў прастамоўі носіць назву «ветэраны». Другое саслоўе цвёрдай квоты не мае, хоць прадстаўніцтва яго ў нашых парламентах таксама салiднае (прапарцыянальна колькасці на душу насельніцтва — большай у свеце няма). Асаблівая прыкмета: саслоўе падраздзяляецца на дзве рэзка акрэсленыя групы. Адна, неймаверна вялікая, мае неймаверна мала месц у парламентах, на з'ездах партыі і г. д., другая ж лічыць, што неад'емнай часткай яе формы поруч з генеральскімі лампасамі з'яўляецца дэпутацкі значок. Гэтае саслоўе носіць назву «ваеннаслужачыя». Характэрная рыса: прадстаўнікі першай групы (а гэта пераважна малодшае і сярэдняе афіцэрства), трапляючы ў структуры дзяржаўнай улады, пачынаюць, дай веры, «паліваць армію брудам, сеяць варожасць паміж арміяй і народам» і нават распрацоўваць розныя ваенныя рэформы. (Яркі прадстаўнік групы — народны дэпутат СССР маёр Лапацін). Усё гэта вельмі не падабаецца прадстаўнікам другой групы саслоўя. І не можа падабацца. Як тлумачыў мне некалі ў арміі адзін «начальнік»: «У цябе на галаве зорка, а ў мяне — кукарда. Значыць, думаць буду я»...

З думкамі пра гэта ішоў я на сустрэчу з народным дэпутатам рэспублікі, «беларускім Лапаціным», таксама маёрам, Уладзімірам Міхайлавічам Грыбанавым. Яго наўрад ці ёсць патрэба прадстаўляць чытачам. Ён запомніўся сваімі смелымі (як бы мы сказалі яшчэ нядаўна), радыкальнымі выступленнямі з трыбуны і ля мікрафона ў зале нашага парламента, сваёй прынцыповай і бескампраміснай пазіцыяй. Хацелася пагутарыць з ім, даведацца, як пачуваецца яму, прадстаўніку «негенеральскай» групы вайскоўцаў, на месцы парламентарыя, што ён думае пра сітуацыю ў парламенце і па-за яго сценамі, урэшце, проста пазнаёміцца з ім бліжэй, як, безумоўна, з неардынарнай асобай, лёс якой прадвызначыла перабудова.

*Дэпутацкі клуб «ЛіМа»*

# А НАДЗЕІ ЗАСТАЮЦЦА...



**Наш няштатны карэспандэнт гутарыць з народным дэпутатам БССР Уладзімірам ГРЫБАНАВЫМ**

**— Мы сустракаемся з вамі, Уладзімір Міхайлавіч, у апошні дзень работы сесіі. Таму першае пытанне, зразумела, будзе такое: як вы ацэньваеце працу парламента, яе вынікі? Што думаеце наконт дэпутацкага складу, ці такім уяўлялі яго сабе ў час выбараў?**

— Ведаеце, удзельнічаючы ў перадвыбарчай кампаніі, назіраючы настрой людзей, я чакаў такога, скажам мякка, не надта рэвалюцыйнага дэпутацкага корпуса. Так яно і атрымалася. Дэпутатаў умоўна можна падзяліць на тры групы. Першая — гэта партыйныя і савецкія работнікі, другая — сярэдзіна, якая нават і за час работы сесіі не надта вызначыла свае пазіцыі, і, нарэшце, левае крыло. Тое, што правых большасць у парламенце, характэрна і для Саюза, і для рэспублікі, для нашай Беларусі.

А наконт таго, што чакалася ад першай сесіі... Людзі чакалі ад сесіі многага, асабліва, так бы мовіць, на бытавым узроўні. Але гэтыя спадзяванні не спраўдзіліся, проста не маглі спраўдзіцца.

Ды зроблена ўсё ж не так і мала. Калі ўспомніць Дэкларацыю аб незалежнасці, якую мы прынялі, калі сапраўды паслядоўна па ёй працаваць у будучым, ці, як сёння стала модным гаварыць, напаўняць яе зместам, то перамены павінны быць.

Коратка мае ўражанні можна ахарактарызаваць так: задавальнення малавата, але надзеі застаюцца.

**— Уладзімір Міхайлавіч, скажыце, а кім вы сябе лічыце — прадстаўніком ваеннага саслоўя ў парламенце альбо проста дэпутатам, чыя прафесія — вайсковец?**

— Я ўвогуле не разумею тых дэпутатаў, якія кажуць: я — прадстаўнік таго ці іншага завода, я — прадстаўнік аграрыяў і г. д. Гэта бязглуздзіца. Мы ж прадстаўнікі народа і правамоцныя на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Я, напрыклад, атрымліваю пісьмы, скаргі, на якія абавязаны адрэагаваць, з усіх куткоў рэспублікі. І не лічу сябе прадстаўніком толькі Узброеных Сіл у беларускім парламенце.

**— А як вы мяркуеце: увогуле, ці маюць права вайскоўцы, што па волі лёсу трапілі на нейкі час у рэспубліку, удзельнічаць у рабоце вышэйшай заканатворчай інстанцыі дзяржавы?**

— Я лічу, што калі ўжо ваеннаслужачы стаў дэпутатам, то ён не павінен быць ваеннаслужачым. Трэба выбраць адно з двух. Як міністр не можа быць народным дэпутатам, так і вайсковец, калі ён хоча застацца вайскоўцам, не мае на гэта права. У будучым мы павінны прыйсці да такога парадку. Трэба, каб армія стаяла па-за палітыкай, знаходзілася на службе ў дзяржавы, падпарадкоўвалася дзяржаўнай уладзе, але ні ў якім выпадку не палітычным партыям, як гэта адбываецца зараз.

**— Калі не памыляюся, ваша пазіцыя і ваша асоба як кандыдата, а потым і дэпутата, прыйшлася не даспадобы вышэйшаму вайсковаму кіраўніцтву...**

— Дэпутатам я стаў, як і многія іншыя з левага крыла, калі можна так сказаць, пазапланавым. Мы прыйшлі на хвалі дэмакратызацыі, на хвалі пякучага жадання змяніць жыццё. Хай гэта гучыць не надта сціпла, але я сам даў згоду балаціравацца ў Вярхоўны Савет тады, калі зразумеў, што змагу там нешта зрабіць.

А пра мой лёс вайскоўца... Ва Узброеных Сілах каманднa-адміністрацыйная сістэма выпінаецца настолькі, як гаварыў Маякоўскі, «грубо и зримо», што «не зачапіцца» за яе проста немагчыма. Супраць мноства фактаў яе праяўлення я адкрыта пратэставаў на партыйных сходах і разнастайных нарадах, але, зрэшты, як гэта і бывае, аказаўся адзін. Не хачу абвінавачваць сваіх калег, у кожнага з іх, вядома, свае інтарэсы і не кожны можа ахвяраваць, скажам, дабрабытам сям'і, уступаючы ў барацьбу з тымі, хто пры ўладзе. Звяртаўся я з прапановамі і патрабаваннямі паскарэння перабудовы і ў іншыя, вышэйшыя інстанцыі, нават у ЦК КПСС. Натуральна, што ўсе мае допісы саслізгвалі ўніз, да маіх начальнікаў, і мяне ўшчувалі за тое, што лезу «не туды». І калі ў 1989 годзе зразумеў, што ў гэтай партыі, у гэтай структуры нічога зрабіць не здолею, я выйшаў з КПСС.

А калі пачалася перадвыбарчая кампанія і салдаты вылучылі мяне кандыдатам, у той час як большасць афіцэраў прамаўчала, я вырашыў яшчэ раз паспрабаваць свае сілы. І вось тады кіраўніцтва кінула супраць мяне практычна ўсе сродкі. Магчыма, гэта тлумачыцца і тым, што асноўным маім супернікам стаў першы сакратар гаркома партыі М. Місуна. Цікавы момант — усё ведамаснае ў дадзеным выпадку адышло ўбок. Я ж вайсковец, я, безумоўна, буду абараняць армейскія інтарэсы, у першую чаргу інтарэсы радавых, ніжэйшых афіцэраў, прытым буду рабіць гэта прафесійна, з веданнем справы, бачачы яе, так бы сказаць, знутры. Хто ж з вайскоўцаў, здавалася б, будзе супраць? Але распачалося самае што ні на ёсць сапраўднае цкаванне.

Не так даўно я чытаў, што ў нас, усходніх славян, існуе цікавы феномен — таго, каго б'юць, яшчэ больш пачынаюць паважаць і стараюцца падтрымаць. Гэты нюанс мае праціўнікі не ўлічылі, дзейнічалі надта прасталінейна і такім чынам вынеслі мяне на хвалю папулярнасці. Вядома, я і сам прыклаў нямала сіл, неаднаразова сустракаўся з людзьмі і, як вынік, быў абраны дэпутатам з васьмі кандыдатаў. Я вельмі ўдзячны сваім выбаршчыкам за падтрымку і буду адстойваць іх пазіцыі на любым узроўні, нягледзячы ні на што.

**— Пазнаёмце нас, калі ласка, з гісторыяй змен вашага месца службы. Гэта, на мой погляд, таксама даволі характэрны момант «разгулу дэмакратыі» сярод кіраўніцтва Узброеных Сіл.**

— Як толькі я быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты, мае кіраўніцтва, атрымаўшы «дабро» Масквы, вырашыла перакінуць мяне на іншае месца службы. У арміі існуе няпісаны закон, згодна з якім афіцэр не павінен пераводзіцца ў другую акругу без яго згоды, за выключэннем тых выпадкаў, калі ён не адпавядае пасадзе. У мяне ж не было ніводнага спагнання ні па службовай, ні па партыйнай лініі. Тады на мяне сфабрыкавалі атэстацыю, на падставе якой хуценька перакінулі з Мінска ў Новачаркаск. І зноў парушылі закон, толькі пісаны ўжо. Па загаду міністра абароны СССР неабходна, каб я пад атэстацыяй распісаўся, а ў выпадку нязгоды маю два месяцы на яе апратэставанне. Толькі пасля вердыкта па маім пратэсце яна становіцца афіцыйным дакументам. А я дагэтуль не бачыў сваёй атэстацыі. Толькі з чужых слоў ведаю, што яна злосная, ілжывая і брудная.

Прычыну ўсіх «страсцей» я бачу ў адным: улез у святая святых сістэмы, дзе працвітаюць карупцыя, злоўжыванне службовым становішчам, кумаўство, пратэкцыянізм, у святая святых сістэмы, якая існуе тут і сувязі якой выходзяць на Маскву.

Далей было так: 30 студзеня я зарэгістраваны кандыдатам у народныя дэпутаты, а 31 выйшаў загад аб тым, каб я адбыў у Новачаркаск. Мае выбаршчыкі абурыліся, мяне падтрымаў БНФ; часць, дзе я служыў, была блакіравана пікетамі. Гэта змусіла кіраўніцтва выдаць новы загад: прыпыніць дзеянне загада аб пераводзе да заканчэння выбарчай кампаніі і, у канцы, пажадаць мне поспехаў у перадвыбарчай барацьбе. Але як толькі 17 сакавіка я быў абраны дэпутатам, адразу ж атрымаў новы загад: 20 сакавіка адбыць на новае месца службы. Рабіць нічога не заставалася, паехаў, прыняў пасаду. Так і жыў народны дэпутат БССР за сотні кіламетраў ад рэспублікі.

А калі прыехаў на сесію, то ад імя Вярхоўнага Савета БССР былі пасланы адпаведныя паперы на імя міністра абароны СССР, у камітэт Вярхоўнага Савета СССР па Узброеных Сілах і дзяржбяспецы, і ў выніку я быў пераведзены з Новачаркаска ў Беларусь, на Брэстчыну, але не на сваё ранейшае месца. Перакінуты на пасаду са спецыяльнасцю, па якой не працаваў 18 гадоў, з часу заканчэння вучылішча, хоць мая пасада тут, у Мінску, дзе знаходзіцца мая выбарчая акруга, дзе жыве, працуе і вучыцца мая сям'я, засталася вакантнай. Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што мае начальства кіруецца не патрэбамі справы, а менавіта амбіцыямі і прагай помсты.

Зараз мяне прызначылі на пасаду сакратара Камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах. Гэта праца пастаянная. Таму зараз вось у маім «дыпламаце» ёсць паперы, на падставе якіх мяне абавязаны вызваліць ад службы ва Узброеных Сілах. Так што мая вайсковая біяграфія, будзем лічыць, скончана.

**— Шкадуеце, не?**

— Шчыра скажу, развітваюся з арміяй з жалем, з цяжкім сэрцам ад таго, што там ва ўладзе застаецца нямала людзей, якія выхаваны пэўным асяроддзем і пэўным часам. Але я хачу сказаць, што, нягледзячы ні на што, я буду абараняць правы чалавека ў войску, буду на баку тых, каму патрэбна мая абарона.

**— Вы дарэчы вярнуліся да парламенцкіх спраў. Некалькі дзён назад у адказ на стварэнне ў Вярхоўным Савеце рэспублікі партыйнай групы была створана і афіцыйная апазіцыя. Вы ўвайшлі ў яе склад? Якія ў яе мэты, кірункі работы?**

— Стварэнне афіцыйнай апазіцыі рыхтавалася раней, некалькі тыдняў таму. Тады яе дакументы падпісалі больш чым шэсцьдзесят чалавек, у тым ліку і я. Але ў апошні дзень Зянон Пазняк і кіраўніцтва фракцыі БНФ чамусьці змянілі сваю лінію, і многія дэпутаты з тых, хто падпісалі дакументы, не трапілі ў спіс апазіцыі. Я не ведаю, чаму гэта было зроблена. Дакумент, які зачытаў З. Пазняк, я лічу канструктыўным, неабходным для нашага парламента. Левае крыло будзе ўносіць у суадносіны сіл сярод дэпутатаў раўнавагу, спрыяць плённай працы парламента.

**— Уладзімір Міхайлавіч, вы беларус?**

— Не, рускі. Але нарадзіўся на Браншчыне, у Краснагорскім раёне, у руска-беларускай вёсцы, што стаіць на самай мяжы. Прытым, наколькі я зараз ведаю, гэта землі этнічна беларускія. Ды я гэта і сам адчуў: нямала часу спатрэбілася, каб навучыцца ў школе рускай мове.

**— Ніякай дэпутацкага значка ў вас да лацкана пінжака прышпілена «Пагоня». Што гэта азначае?**

— Мой сын-студэнт начапіў мне яе ў той дзень, калі я ішоў на афіцыйную цырымонію рэгістрацыі мяне кандыдатам у дэпутаты. З таго часу я гэты значок не здымаю і здымаць не збіраюся. Я лічу, што нацыянальна-гістарычная сімволіка беларускага народа не проста мае права на існаванне, яна нават не патрабуе абароны. Яна існуе, як паветра. Гаворкі «трэба — не трэба» — марная, непатрэбная справа.

Дарэчы, у БНФ я не ўваходжу, але я з тых, хто падтрымлівае фракцыю фронту, яе дакументы. Я лічу іх вельмі канструктыўнымі, вельмі важнымі і неабходнымі ў Вярхоўным Савеце. Што яшчэ мне імпануе ў пазіцыі фронту? Відаць, тое, што галоўная яго мэта — памяншэнне памераў і наступстваў чарнобыльскай бяды. У гэтай справе я буду падтрымліваць БНФ заўсёды.

**— Уладзімір Міхайлавіч, дазвольце вам яшчэ адно пытанне як прафесійнаму вайскоўцу. Вы галасавалі за прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўнай незалежнасці рэспублікі. Адзін з яе пунктаў — магчымасць стварэння беларускіх вайсковых арміраванняў. Якая ваша думка наконт этага пункта?**

— Дэкларацыя — гэта крык аб дапамозе. Гэта апошняя магчымасць народа і яго дзяржавы прыйсці да лепшага жыцця. Трэба разбураць сталінска-брэжнеўскую імперыю. Гэта зразумелі ўжо ўсе. Таму кожны пункт Дэкларацыі — спроба скінуць путы з ног і пятлю з шыі, надзея на тое, што хоць нашы дзеці будуць жыць па-чалавечы. І таму заява аб рэспубліканскіх Узброеных Сілах арганічна ўваходзіць у Дэкларацыю. Адзінае, што хацелася б дадаць. Беларусь у сувязі са сваім геаграфічным і стратэгічным становішчам ажно стогне пад ціскам ваеннага ведамства і ваеннапрамысловага комплексу. Яна перанасычана ракетамі, тэхнікай, войскамі. І ўсё гэта без аніякага кантролю з боку Вярхоўнага Савета рэспублікі. Мне думаецца, мы абавязкова павінны трымаць сітуацыю пад кантролем і дамагацца дэмілітарызацыі рэспублікі, зыходзячы з таго, што мы — незалежная дзяржава. Лічу, што гэты працэс павінен праходзіць хутчэй. На другой сесіі мы проста абавязаны стварыць вайсковую камісію.

**— І апошняе пытанне, Уладзімір Міхайлавіч. Вы ўваходзіце яшчэ і ў склад камісіі па заканадаўстве. Некальні слоў аб яе рабоце. Што чакаць ад заканадаўцаў у будучым?**

— Камісія па заканадаўстве сёння проста завалена праектамі, і не толькі новымі, якія павінны на справе пацвердзіць палажэнні Дэкларацыі, але і зменамі да законаў, якія ўжо існуюць, у сувязі з тым, што жыццё наша мяняецца. У рабоце гэтай камісіі я мог бы адзначыць два асноўныя накірункі. Першы, які існаваў да апошняга часу, — гэта прывязданне нашага заканадаўства ў адпаведнасць з саюзным. Такая работа сёння адмірае самым натуральным чынам. Для яе ж не патрэбен Вярхоўны Савет. Пара класных юрыстаў, некалькі добрых перакладчыкаў — і ўсё будзе выдатна, што заўсёды раней і было. Цяпер жа Дэкларацыя абвясціла верхавенства рэспубліканскіх законаў. Таму нам трэба арыентавацца на свой уласны вопыт, на свой уласны інтэлект. І ў гэтым сэнсе камісія па заканадаўстве будзе самая «працуючая», галоўная камісія Вярхоўнага Савета.

Сённяшні наш парламент выбраны на хвалі эмоцый, папулізму, абкарнанай дэмакратыі. Наша агульная задача зараз — рыхтаваць сабе змену, урабляць глебу, працаваць над стварэннем той інфраструктуры, з якой вырасце новы Вярхоўны Савет як палітычны орган, у якім сапраўды адчувае патрэбу беларускі народ.

**Гутарку вёў Максім ГІЛЕВІЧ.**

## Пімен ПАНЧАНКА



## *Беларускія настаўніцы*

Што з вамі сталася,
Што з вамі станецца?
Можа, цяпер вы пакрыўджана плачаце,
Беларускае мовы настаўніцы,
Беларускай літаратуры выкладчыцы?

Вашай лагоднаю ласкай атулены,
Пра Беларусь мы чытаць былі рады.
Мы вам верылі больш, чым матулям,
Хоць і матулі казалі нам праўду.

Сонца маленства да старасці свеціць:
Зноў мы то ў школе,
То ў інтэрнаце.
Помняць настаўніцу пінскія дзеці —
Іх партызанку
Грышчанку Надзю.

Будзьце ад сэрца у вершы праслаўлены:
Так вы працуеце самааддана,
Войцік Валянціна Вацлаваўна,
Юбко Валянціна Адамаўна.
Як вы спявалі «Ой рэчанька, рэчанька»,
Ваш голас у сэрцах — сардэчны,
не гучны...
Гэта пазней нашу мову скалечылі,
І пакаленні ад мовы адлучаны.

Вы — мае мілыя,
Вы — мае родныя,
Колькі было ў вас і крыўды, і слёз...
Вас пахваліў бы за мову народную
Мудры настаўнік — Алесь Белакоз.

Таварышы начальнікі,
Павышайце настаўніцам стаўкі,
Будуйце ім катэджы
І не чытайце натацый:
Калі мы страцім беларускіх настаўніц —
Знікне і ўся беларуская нацыя.

## *Трое*

Паміж эпох,
Невыразных і шэрых,
Сярод пакутнікаў і герояў
У Беларусі было найвялікшых трое:
Каліноўскі,
Купала,
Машэраў.

Цяжка складаць пра найлепшых радкі:
Болем працяты ўсе мае строфы.
Нават шэпату іх не чутно: «Браткі»:
Каму пятлю накінулі,
Каго скінулі ў прорву,
Каго забілі ў аўтакатастрофе...

На плошчы каля Лукішак
На свой народ
Глядзеў перад смерцю Кастусь.
І плошча яго апошнім выдыхам дыша:
«Чуеш, Беларусь!»

А дзядзька Янка
Заўсёды ў турбоце
Аб родным народзе,
Каб навучыліся землякі
Людзьмі звацца.
Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны
Пачалі, як волаты,
За волю змагацца.

Была вайна.
Да яго нахлебнікі лезлі.
А ён штодня пра Беларусь думаў:
«Новыя вершы напісаць пара»...
З дзевятага паверха
У пралёт паміж лесвіц
Скінулі нашага песняра.

А калі Пётр Міронавіч загінуў,
Доўга партызанскія ўдовы плакалі,
Бо яму аднаму толькі верылі;
Прыносілі на магілу кветкі
І ў спёку, і ў стынь...
Вуліца Каліноўскага,
Вуліца Купалы,
Праспект Машэрава
І яго журботная песня —
Хатынь.

□

Я цяжка захварэў: і грып, і запаленне...
Замест сну — пякельнае трызненне:
Шторм у Атлантыцы, спякотная Сахара,
Агні Нью-Йорка, сцюжа Эверэста...
За што, за што найшла такая кара?
І ўсе вандроўкі зноў узніклі рэзка.

Усё ў жыцці люблю я і шкадую...
Сказаў унучцы Ксені недарэчна:
«Вось акрыяю і ў царкву пайду я,
Вялікую пастаўлю богу свечку».

«Куды табе, дзядуля? Сэрца... Ногі...» —
Дзіця пашкадавала...
З радасцю я сведчу:
Яна прызналася:
«Твайму старому богу
Паставіла ў царкве я ўчора свечку».

Мы ўсе з бязбожнага старога пакалення.
І вера ў нас была:
«За бацькаўшчыну ў бой!»
А сёння я ў нязвыклым захапленні
І міласэрнасцю, і чуласцю малой.

●

Не раз мы пад крывавымі сцягамі
Даверліва на вернасць прысягалі,
Не хітрасць — прысягнуць,
А мудрасць — дасягнуць.

Расійская імперыя,
Савецкі наш Саюз,
Калі ж ты скончыш песню
Жабрацкую сваю?

Мы хвалямі затоплены
Хлусні, маны, ілжы.
Калі па-чалавечаму
Пачнём усе мы жыць?

Злаба і раздражненне,
Разбойніцкі разгул...
І спее ў нашых сэрцах
Расплаты гнеўны гул.

## *Залатое кальцо Масквы*

*«У сваёй эканоміцы мы пабудавалі вар'яцкі дом і жывём па законах вар'яцкага дома».*

**Эканаміст М. ШМЯЛЕЎ.**

**«Цяпер ніводзін сышчык свету, ні Скотланд-Ярд, ні ЦРУ, ні наш паважаны Камітэт дзяржаўнай бяспекі — ніхто не дазнаецца, у якую прорву бухнула валюта, якую мы выручылі за заходне-сібірскую нафту (200 мільярдаў долараў). Гэтыя магутныя паступленні мы выкарысталі не для стварэння сучасных базісных і інструментальных галін эканомікі; галін, якія б забяспечвалі яе жывучасць і прагрэс, а неяк бяздарна праматалі, растранжырылі, прапілі, прафукалі — скажыце, як вы пажадаеце, таму што кожны тэрмін тут будзе на месцы і, на жаль, будзе правільным».**

**З гутаркі з членам Прэзідэнцкага Савета СССР акадэмікам С. С. Шаталіным: «Эканоміка крывых люстэркаў», «Огонёк», № 20, 1990 г.**

Трохі панюхалі тэхнікі,
Пацёрліся ў агранаміі.
Сялянства абакралі ці знішчылі —
Вёскі сягоння нямыя.
Родную мову забылі
І затапталі спадчыну.
Усюды фонды, рахункі —
Быццам жывём ускладчыну.

Бурчаць дакладчыкі нудна
Пра плюралізм,
стагнацыю
і кансэнсус...
Пакорная наша нацыя
У першародным сэнсе.

Ніхто ў нас рабіць не жадае,
Толькі б трапіць у крэсла
З двайною зарплатай.
Астатніх
Няхай бы халера растрэсла.

Для мільёнаў Чарнобыль — згуба,
Ядзерная зіма.
А тут пятнаццаць рублёў на рукі —
І лейкеміі няма...

Што там нашы Дразды —
Глухая правінцыя!
А пад Масквой раскашуюць
Сапраўдныя нашы правіцелі.

Вёрстаў за дваццаць ці сорак —
Куткі залатыя за горадам:
Катэджы, палацы з басейнамі
Высяцца пекна і горда.

Гэта не дробныя соткі
Вашых садовых участкаў.
Тут жывуць генералы
І ўсё былое начальства.

Гэта для іх у Сібіры
Золата рыюць у горах.
Над гэтым багаццем лунае
Страх, і расплата, і гора.

Тысячы тут разбуральнікаў
І вымагальнікаў.
А дэфіцыт і валюта —
Усё для маскоўскіх начальнікаў.

Тут пражываюць Раманавы,
Грышыны і Медуновы,
Золата і ўзнагароды —
У тайніках адмысловых.

Тут і былыя міністры,
Збрад мафіёзна-панскі,
І чорныя планіроўшчыкі
Ганебнай вайны афганскай.

А хто вінаваты?
Не знойдзеш:
Заблытаны хітрыя сцежкі.
«Гдлян, Іваноў і Калугін» —
Кажуць з пагрознай усмешкай.

Няхай жыве «перастройка»!
На кожным вуглу перастрэлка:
З боем бяруць макароны,
З боем купляюць гарэлку.

Божа, дапамажы нам
Збегчы з вар'яцкага дома!
Жыць гэтак нельга!
Чакаем
Гнеўных маланак і грому.

## *Мініяцюра пра непатрэбнага халтуршчыка*

Крытык Бэндэ калісьці
Прагнуў нашых Народных раструшчыць.
Час закрэсліў яго...
А цяпер новы цуд:
Атакуе сучасных паэтаў
Нахабны халтуршчык —
Асцярожна: Маеўскі!
Не наступіце на... бруд.

*На тэму дня*

# КАЛІ ПАРУПІЦЦА...

Неўзабаве афіцыйна ўступіць у сілу Закон аб мовах у Беларускай ССР. Ледзь было не напісаў — павінен уступіць, бо за доўгія застойныя гады прызвычаіліся: усе вялікія і малыя справы вырашаюцца толькі пад прымусам адпаведных дырэктыўных органаў. Што-што, а пастановы яны прымаць умелі. А вось выконваць іх — на гэта часцей за ўсё забываліся. Ды, дзякаваць богу ці перабудове, час зараз іншы, і таму, трэба думаць, Закон аб мовах сапраўды ўступіць у сілу.

Але ён запрацуе па-сапраўднаму толькі ў тым выпадку, калі на яго пачнём «працаваць» усе мы, незалежна ад таго, якую пасаду займаем і які ўзрост маем. А паспрыяць Закону ўключацца ў жыццё ёсць нямала спосабаў. Адзін з іх, прытым даволі просты і досыць перспектыўны, мне падказала нядаўняя паездка на поўдзень. Правільней, палёт...

Праз нейкіх трыццаць хвілін, як наш «ТУ» ўзяў курс на Сімферопаль, мілая сцюардэса разам са шклянкай асвяжальнага напітку прапанавала нам і свежыя нумары газет. Разам з «Правдой», «Известиями», «Комсомольской правдой» былі тут і рэспубліканскія — «Советская Белоруссия», «Знамя юности»... А вось выданняў на беларускай мове, як вы ўжо здагадаліся, і ў паміне не было. Чаму ж? Хіба гэта быў нейкі спецрэйс, якім у Сімферопаль ляцелі іншаземцы? Не, звычайны рэйс па раскладу, і ляцелі адпачываць на поўдзень мінчане, сярод якіх мінімум палова — несумненна беларусы. Як тут не падкрэсліць і такую акалічнасць, што палёт гэты праводзіла не нейкая там «Люфтганза», а — Беларускае ўпраўленне грамадзянскай авіяцыі...

Той жа, хто ездзіць чыгункай, можа прывесці таксама нямала падобных прыкладаў. Праўда, сяды-тады чыгуначнікі за адпаведную плату могуць прапанаваць і сякія-такія беларускія выданні, найперш часопіс «Работніца і сялянка».

Думаецца, што «Саюздрук» і ўпраўленне грамадзянскай авіяцыі і чыгункі павінны пайсці насустрач адно аднаму і сумесна парупіцца аб тым, каб пасажыры ў небе і на зямлі мелі магчымасць чытаць выданні на беларускай мове. Хіба не знойдзецца жадаючых пачытаць «Звязду» ці «Чырвоную змену», «Голас Радзімы» альбо наш «ЛіМ»? Няўжо не прывабіць нікога свежы нумар «Працы», бюлетэня «Наша слова»?

Асабліва гэта тычыцца чыгункі. Тут і паездкі доўжацца суткамі, і груз тут на грамы не падлічваецца, можна ўзяць «на борт» і «Полымя», і «Маладосць», і «Нёман»...

Адным словам, трэба парупіцца...

**ЛІМАВЕЦ.**

# «А ліра як гучыць?»

**Чытаючы пейзажную і экалагічную паэзію**

У НАШ час экалагічных кантрастаў і хвароб, відавочна, не трэба і казаць, па якіх прычынах прырода застаецца адной з магістральных тэм сучаснай беларускай паэзіі. Родная прырода ўспрымаецца сённяшнімі паэтамі як неацэнны нацыянальна-духоўны скарб і Храм прыгажосці, які, на жаль, па віне чалавека месцамі занядбаны, забруджаны, а то і па-варварску апаганены. Пачынаючы ад М. Гусоўскага, Я. Коласа і да сённяшніх паэтаў, беларуская паэзія бачыць свет роднай прыроды як свет экалагічнай гармоніі, як унікальны космас нацыянальнага быцця.

Асабліва моцную завостранасць атрымала ў паэзіі пасля чарнобыльскай катастрофы экалагічная праблематыка. Радыеактыўная забруджанасць роднай зямлі ўзмоцніла ў паэтаў адчуванне трагічнага перакрыжавання смерці і жыцця як у свеце чалавечым, так і ў навакольным асяроддзі. Можна надоўга запыніцца на разглядзе паэтыкі прыродаапісанняў П. Панчанкі, А. Грачанікава, В. Зуёнка, М. Рудкоўскага, можна шмат гаварыць пра цікавую і арыгінальную натур-філасофію М. Танка ці пра язычніцка-купальскую паэзію прыроды Р. Барадуліна, вымагае асобнай гаворкі пейзажная лірыка Н. Гілевіча, Я. Сіпакова, Д. Бічэль-Загнетавай, Л. Дайнекі, В. Гардзея, М. Дуксы, К. Камейшы або яшчэ маладзейшых — Л. Галубовіча, Л. Дранько-Майсюка, У. Марука, А. Сыса, А. Пісьмянкова і іншых. Безумоўна, глыбіня лірычнага, філасофскага раскрыцця тэмы «чалавек і прырода» дасягаецца дзякуючы важкасці мастацкага і ідэйна-эстэтычнага зместу і ўзроўню паэтычных твораў. Аднак у сучаснай лірыцы, у творчасці асобных паэтаў даволі часта сустракаюцца сур'ёзныя мастацкія пралікі, недапрацоўкі, якія прыкметна зніжаюць эмацыянальную і эстэтычную сілу ўздзеяння паэтычнага слова на чытача. Зірнём жа крытычна на асобныя вершы аб прыродзе і паспрабуем выявіць у іх найбольш тыповыя мастацкія недахопы.

Сучасны чалавек, як вядома, яшчэ мае мажлівасць прыпасці да крыніц першароднасці, неразгаданай казачнасці. Шматлікія куточкі прыроды поўніць багацце «і невядомых зыкаў, і невядомых рухаў...» (У. Марук). Ды гэта не паўсюдныя праявы беларускіх краявідаў.

**Пейзаж маляўнічы — нічога**
**не скажаш.**
**Ды многа змянілася ў родным**
**пейзажы.**
**(А. Ставер)**

Як бачым, выказаў паэт сваю думку досыць аголена-празаічна, бясстрасна. Далейшы тон, здавалася б, вымагаў адпаведных фарбаў, іншай інтанацыі. Але ў паэта ўжо не хапіла сіл узняць тэмпературу ні думкі, ні пачуцця.

Верш А. Ставера «Родны пейзаж» змешчаны ў зборніку яго выбранай паэзіі «Зоры зямныя». Пісаўся гэты твор, можа, і даўнавата, але тое, што яму бракуе свежасці, балючасці позірку на акаляючы свет, — відавочна. І такіх вершаў у сённяшняй паэзіі нямала. Насцярожвае, што паэты, асабліва маладыя, часта запыняюцца толькі на канстатацыі фактаў і вынікаў негатыўнага гаспадарання, выказваючы іх словамі накшталт «няма», «прапала», «знікла», «змялела»...

**Няма крыніц,**
**Няма ракі.**
**Засохла лотаць.**
**Няма за вёскай асакі.**
**Няма балота.**

Гэта радкі Л. Пранчака з альманаха «Дзень паэзіі-88». Ці возьмем тыпова апісальны верш «Асвяціла нябёсы...» В. Шніпа. Паэту не хапіла заглыбленых разважанняў, няма ў вершы горычы і болю, якія бралі б за душу, знаходзілі шчыры водгук:

**А на прызбе старыя**
**Зноў размовы вядуць**
**Пра былыя палеткі,**
**Пра лясы, пра ваду.**
**І ўсё хваляць былое...**

Напэўна, мудрыя дзяды і бабулі маюць на тое падставы, каб выказваць захапленне былой красой, турбавацца пра агульныя нашы скарбы — доўгае жыццё пражылі яны на свеце. Як бы хацелася пачуць іхнія і паэтавы «неспакойныя думкі пра лясы, пра ваду...» Неабходна, відаць, ісці ўглыб асэнсавання экалагічных праблем.

Трэба сказаць, што асобным паэтам і больш сталага творчага ўзросту ў подступе да праблемы «чалавек і прырода» бракуе першароднасці, пачуцця ўдумлівасці, істотных адкрыццяў. Прачытаўшы, напрыклад, невялікі верш В. Жуковіча «У загарадным лесе», адразу згадваеш радкі з «Лясных аблакаў» П. Панчанкі, у якіх, прынамсі, гучыць узрушаны крык паэтавай душы: «Людзі! Пакіньце глядзець на паляны Прагным і хіжым сваім жыватом». У В. Жуковіча такой інтанацыі якраз няма, а ёсць толькі лабавыя звароты-воклічы да сумлення мяшчанства. Ды і згадка пра раскіданыя бляшанкі і сляды кастроў, якімі шмат гадоў назад надзвычай абуралася прэса, — простае паўтарэнне прапісной маралі.

**О, вы мяшчане і мяшчанкі,**
**што гэтак цягне вас сюды,**
**дзе пасля вас — адно бляшанкі**
**ды дзікіх вогнішчаў сляды?!**

**Дзе вы ўзялі такую моду:**
**каб жываты ядой набіць,**
**ісці ў маўклівую прыроду**
**і ўсё жывое там губіць?!**

Легкаважкасцю інтанацый вызначаецца і другі верш са зборніка «Твая місія» — «Мялеюць рачулкі і рэкі...».

**Спусцілі ваду чалавекі,**
**і плачам цяпер, як бабры,—**

кажа В. Жуковіч, нібы прыпамінаючы мясціны паэзіі П. Панчанкі: «горкі плач», «плачам бабрамі». Што ж гэта за такія «чалавекі», што за свет-псіхалогія ў іх — невядома, не адчуваецца ў вершы і болю, драматызму нашага плачу па прыродзе. Ствараецца ўражанне, што паэт вымучвае радкі, каб не адстаць ад «моднай» тэмы.

Альбо возьмем верш В. Жуковіча «Верыцца...», у рытмамелодыцы якога чуецца нейкая лёгкасць і недарэчная напеўнасць. Няхай даруе паэт, але неяк па-дзіцячы і досыць бясхмарна выказвае ён свае думкі і пачуцці:

**Атулім зямельку садамі, лясамі**
**на радасць нашчадкам**
**(пацешымся й самі).**
**Не пусцім атруты ў рэкі, азёры.**
**Нідзе на паўторым Чарнобыля**
**гора.**

Ды В. Жуковіч умее пісаць удумліва і кранальна, пра што сведчыць хаця б такі яго верш, як «На сумежжы».

Не прэтэндуе на першаадкрыцці часам і Л. Дайнека. У вершы «Як выказаць цябе?..» прырода для паэта — «вечнасць і свабода», «бура і спакой». Л. Дайнека пералічвае якраз усё тое, чым была пры-

# У ХАТЫНІЧАХ, ПАСЛЯ ВАЙНЫ...

**Л. Леановіч. Паводка сярод зімы. Раман, апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989.**

З Андрэйкам Сахутам, галоўным героем новага рамана Леаніда Левановіча «Паводка сярод зімы», чытач знаёмы па папярэднім рамане «Шчыглы». Гэтаксама і з іншымі персанажамі. Тады, нагадаю, пісьменнік узнавіў падзеі трох цяжкіх ваенных і пасляваенных гадоў. Дзеянне адбывалася ў родных мясцінах аўтара—там, дзе цячэ Бесядзь. У характары ж Андрэйкі ўгадваліся аўтабіяграфічныя моманты. У карысць гэтага гаварыла і аўтарскае прысвячэнне — «Памяці маіх братоў — Хведара, Міхаіла, Міколкі і Толіка».

Пісьменніку ў цэлым удалося стварыць пераканаўчы малюнак народнага жыцця. Найбольшы поспех спадарожнічаў яму тады, калі апавядаў аўтар пра свайго галоўнага героя — аднаго з тысяч малалетніх пакутнікаў вайны, чыё дзяцінства яна апаліла, пазбавіла радасці і разам з тым не магла забраць аптымізму, веры ва ўсё лепшае. Удала была знойдзена і назва рамана — «Шчыглы». Гэтую птушку Андрэй Сахута ўпершыню ўбачыў яшчэ тады, калі ішлі апошнія баі, гарэлі навакольныя вёскі. Запомнілася хлопчыку: «грудка ў яго чырвоная-чырвоная. Во як ета зарыва».

Я невыпадкова прыгадаў момант, звязаны з жыццём Андрэйкі Сахуты, бо і ў новым рамане найлепшыя старонкі тыя, дзе гаворыцца пра гэтага дапытлівага, няўрымслівага хлапчука. Л. Левановіч піша пра свайго героя з любоўю, адбіраючы найбольш значныя эпізоды з дзяцінства тых, хто сёння дасягнуў свайго пяцідзесяцігадовага перавалу. Андрэйка Сахута — па сутнасці той самы шчыгол, які, крыху апярыўшыся, прыглядаецца да наваколля, ці не ўпершыню сутыкаючыся з усімі складанасцямі жыцця. Хоць вайна і мінулася, ды многае, пасеянае ёю, засталося.

Ніяк не можа зразумець Андрэйка, чаму гэта ўсе з падазронасцю ставяцца да Нінкі Варонінай: «Ад маці, іншых дарослых Андрэйка чуў, што паліцай Воронін быў зверам, а яму ўсё роўна чамусьці шкада гэтай канапатай Нінкі». Задумваецца хлапчук над несправядлівасцю, па-свойму выпрацоўвае маральныя асновы ўзаемаадносін між людзьмі: «Мой бацька быў на фронце... Калі б ён там зрабіў нешта кепскае, дык няўжо б і мяне пасадзілі ў турму?»

Шкада яму і сястру Марыну, якая пасля заканчэння фельчарскага вучылішча працуе ў раённай бальніцы. Добрая, ласкавая, яна гатова заўсёды зразумець хлапчука, прыйсці на дапамогу. Вось толькі Марына адна. Хвалюецца і маці, што дачка векавухай можа застацца.

Адбываюцца, можна сказаць, уваходзіны Андрэйкі ў вялікае жыццё. Ён, у многім яшчэ бесклапотны і разам з тым не па-дзіцячы сур'ёзны, пастаянна вымушаны пераадольваць тую ваенную паласу, якая і ў яго лёсе, і ў жыцці аднавяскоўцаў ужо засталася ззаду, але тым не менш нязменна адчуваецца.

Л. Левановіч праз вобраз Андрэйкі паказвае традыцыйнае супрацьстаянне дабра і зла, жыцця і яго процілегласці — смерці. Робячы гэта, пісьменнік не абмінае таго негатыўнага, што ў пасляваенны час адбывалася ў вёсцы. Людзі, якія выстаялі перад лютым ворагам, адолелі яго, свята верылі, што разам з фашызмам адыдзе ў нябыт усё благое. Але, як і да вайны, былі ў многім сляпыя ў сваёй веры, не маглі і здагадвацца, адкуль ранейшая падазронасць, беды, жаданне сяго-таго, кіруючыся высокімі мэтамі, звесці ўласныя рахункі.

Як і ў рамане «Шчыглы», у «Паводцы сярод зімы», на маю думку, Л. Левановічу найцяжэй удаецца суаднесці гэтыя два сюжэтна-тэматычныя пласты. З аднаго боку — лірычна-ўзнёслае, хоць і з гаркавінкай узнаўленне жыцця галоўнага героя, з другога ж — жыццё самой вёскі Хатынічы, усяго раёна. Канешне, цалкам апантанасць людзей працаю, стаўленне да яе, як да свята будняў, адмаўляць нельга. Так лёгка пайсці шляхам іншай крайнасці, бо першая, мы гэта памятаем, была ў пасляваеннай літаратуры з яе бесканфліктнасцю, з яе старшынямі-ардэнаносцамі, «кавалерамі залатой зоркі» і ўсім і заўсёды задаволенымі калгаснікамі, якім адкрываліся светлыя далі.

Наколькі ж у такім разе ў рамане праўда мастацкая суадносіцца з праўдай жыццёвай? Што Л. Левановіч імкнецца глядзець на тагачасныя падзеі з вышыні сённяшняга дня, сумнявацца не даводзіцца. Пераканаўчым атрымаліся вобразы першага сакратара райкома партыі Акапяна

**Мікола МІНЧАНКА**



## Субота

У рэчцы дзень вымые ногі:
Туманам на поле — спачыць.
І будуць маўкліва дарогі
За сцішанай вёскай сачыць.

Ці выйдуць тут хлопцы, дзяўчаты
Да клуба, які апусцеў.
І буду маўчаць вінаваты:
Застацца тут сам не схацеў.

Тут маці жыве адзінока.
Так дрэвы на полі жывуць.
Да лесу тым дрэвам далёка.
І ў госці ўжо іх не завуць.

●

Наш лес — наш лёс. Яны перапляліся.
Яны зжыліся. І зрадніліся навек.
Ідзеш у лес, яму ты пакланіся,
Калі ты свой і блізкі чалавек.

У будучыню смела углядайся.
Не трэба аб мінулым стомлена тужыць.
Як жыў наш край — часцей пытайся.
Больш думай, як нашчадкі будуць жыць.

## Роднае

Калі духмяны бохан на стале,
Як сонца цёплае, пакой асвеціць,
Тады рахманы дзядзька ў кубак лье
Бясконцы пах, настоены на леце.
Тут водар мякні, як ліпнёвы цвет.
У песні — медуніцы пах з чаборам.
І словам яркім цэлы белы свет —
Затканы дзіўным матчыным узорам.
Тут чысціня ўсіх роздумаў былых,
Якіх ніколі не забудзе сэрца.
Тут цішыня аж прыгалубіць слых.
І поле песняй роднай адгукнецца.
Дзе наліваюць буйна каласы,
Дажджамі шчодрымі абмытыя.
Тут выплываюць продкаў галасы,
Што намі не забытыя.

# а. Ян МАТУСЕВІЧ:

# «Не выракацца свайго народа, мовы, традыцый...»

**Гэтага чалавека можна сустрэць і на рэлігійным свяце ў касцёле ў Барунах на Ашмяншчыне, дзе ён працуе настаяцелем, і на розных акцыях БНФ, і на кніжным аўкцыёне, бо надта ж ён вялікі аматар кніг... Гэта — каталіцкі святар айцец Ян Матусевіч.**

**Імя яго неаднойчы згадвалася ў лімаўскіх публікацыях. Сёння мы маем магчымасць бліжэй пазнаёміць чытачоў з айцом Янам. З ім гутарыць наш пазаштатны карэспандэнт У. Пучынскі.**

**— Айцец Ян, якім чынам прыйшлі вы ў рэлігію? Як сталі не проста святаром, а чалавекам, што хварэе за лёс свайго народа, неабыякавы да адраджэння мовы, традыцый, да дэмакратычных працэсаў, якія адбываюцца ў краіне?**

— Я выхоўваўся ў сям'і вернікаў. Найбольш веруючымі былі цётка й бабуля. Яны сваім выхаваннем Ці прывілі любоў да Бога. Далейшая, ужо свая, дарога была незвычайнаю. На маю думку, да больш глыбейшага пазнання Бога я прайшоў праз антырэлігійную літаратуру (хоць гэта можа падацца вельмі дзіўным). Вельмі мне цікава было даведацца, ад чаго ўсё зарадзілася, як стварыўся свет. Я чуў, што аб гэтым усім напісана ў «Бібліі». У той час яе нельга было пачытаць нават у грамадскай бібліятэцы. І я па сваёй наіўнасці звярнуўся да аднаго з упаўнаважаных савета па справах рэлігій з просьбаю падказаць, дзе можна набыць Біблію. І ён — а было гэта гадоў 20 — 25 таму — паглядзеў на мяне са здзіўленнем: «Чым гэта вы, малады чалавек, цікавіцеся? Ну як можна ў наш час верыць у Бога?» А потым і дадаў: «Калі хочаце, пачытайце «Пацешную Біблію» ці «Пацешнае Евангелле»: можаце ўзяць у любой бібліятэцы ці кнігарні».

Ужо маючы гадоў дваццаць ці болей, я чытаў антырэлігійную літаратуру, дзе ўсялякім чынам высмейваліся прадстаўнікі духавенства. Я ж, чытаючы гэта, успрымаў усё наадварот.

У 1968 годзе я ездзіў паступаць у тэатральны інстытут, але не прайшоў творчы конкурс. Хутка перайшоў у каталіцкую веру (у дзяцінстве я быў хрышчаны ў царкве, мае бацькі былі праваслаўныя), бо ўсе дзяды й прадзеды былі каталікамі — як лацінскага, так і ўсходняга абраду (г. зн. — уніятамі) — з пакалення вельмі далёкага. У той час стаў чытаць вельмі шмат рэлігійнай літаратуры па-руску. І ўжо меў шчасце мець Біблію для свайго карыстання. Хацеў пасля тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску паступіць у семінарыю, каб прысвяціць сябе дзейнасці ксяндза. Але паколькі ў мяне была свецкая адукацыя, мне было адмоўлена ўпаўнаважаным па справах рэлігій. Таму прыйшлося атрымаць святарства праз Польшчу. Прыехаўшы адтуль, я з 1979 года працую настаяцелем касцёла ў вёсцы Баруны Ашмянскага раёна.

**— Вядома, што вы адпраўляеце набажэнства па-беларуску.**

— У Савецкім Саюзе ў касцёлах традыцыйна (апрача Літвы, дзе набажэнства ідзе па-літоўску, і Латвіі, дзе жыве латышская мова) ужываецца польская мова. Але ёсць на сённяшні дзень тры каталіцкія святары на Беларусі, якія карыстаюцца ў касцёлах беларускаю моваю. Гэта ўсім вядомы змагар за адраджэнне роднае мовы ў святынях айцец Уладзіслаў Чарняўскі, настаяцель касцёла ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна, айцец Пятрайціс, настаяцель касцёла ў горадзе Мёры (хаця па нацыянальнасці ён літовец) і я.

Чаму я так зрабіў? У кастрычніку 1988 года я разам з айцом Чарняўскім быў запрошаны на канферэнцыю «Тысячагоддзе хрышчэння Беларусі й беларускі народ» у Лондан Беларускім культурным цэнтрам і Беларускай каталіцкай місіяй. Апошнюю ўзначальвае а. Аляксандр Надсан, дырэктар беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны і беларускага музея ў Лондане. Там былі прадстаўнікі з Аўстраліі, Амерыкі, Францыі, Бельгіі, Канады... І адзін прадстаўнік Ватыкана сказаў мне: «Трэба, каб на Беларусі родная мова была чуваць у святынях не толькі ў адным Вішнеўскім касцёле, але і ў іншых. Варта і вам, а. Ян, паследаваць гэтаму прыкладу». З таго часу я й малюся па-беларуску. Хаця гэта не ўсім прыйшлося даспадобы, бо людзі старэйшага ўзросту прызвычаіліся да польскае мовы, але ж моладзь, людзі сярэдняга ўзросту з сімпатыяй аднесліся да гэтага.



**— Летась вы бралі чынны ўдзел у святкаванні «Дзядоў» на Беларусі, тым днём вы былі ў Курапатах і асвяцілі пакутніцкі Крыж.**

— Мне, як чалавеку, які нарадзіўся на Беларусі, родзічы якога таксама пацярпелі ў гады сталінскіх рэпрэсій, гэта было святым абавязкам. Я пайшоў туды з благаславення нашага цяперашняга біскупа, апостальскага адміністратара Тадэвуша Кандрусевіча.

Між іншым, сёлета на Беларусь прыязджаў каталіцкі святар з Польшчы (які нарадзіўся там і паляк сам), які станоўча ставіцца да ўсяго беларускага. Ён лічыць, што ў нашых святынях павінна скарыстоўвацца наша родная мова.

Вазіў яго ў Катынь пад Смаленскам, дзе пахаваныя ахвяры сталінізму — польскія афіцэры. Пабылі мы і ў Курапатах. Тут на памяць тры каменьчыкі з гэтых магіл.

**— Як вы думаеце, айцец Ян, ці можа паўтарыцца тое, што было ў 30-ыя гады?**

— Усё залежыць ад Бога. Я не раз казаў аб гэтым сваім вернікам.

**— Пасля «Дзядоў» адбылося святкаванне ў беларускай каталіцкай святыні ўгодкаў забойства уніяцкага святога — біскупа Кунцэвіча. Чаму вы, каталіцкі святар, таксама дачыніліся да гэтага?**

— Я скажу, што гэта не толькі уніяцкі біскуп. Ён — і католік. Што значыць уніяты? Гэта католікі ўсходняга абраду.

**— Але ж гісторыкі кажуць, што Кунцэвіч быў пакараны заслужана, сінтэзу дзвюх культур, дзвюх вер ён дамагаўся нечалавечымі метадамі, вёў непрыстойны лад жыцця...**

— Я з гэтым не згодзен. Лічу, што гэта домыслы ворагаў уніі, ворагаў св. Юзафата Кунцэвіча, ворагаў каталіцкай царквы. Гісторыя не кажа аб гэтым канкрэтна. А домыслы могуць быць розныя.

**— Вам блізкія беларускія нацыянальныя традыцыі, культура... Вось у вашым пакоі бачу я гравюры «Менск», «Вільня», бел-чырвона-белы сцяжок, выявы Пагоні, фотаздымкі беларускіх ксяндзоў А. Станкевіча і Я. Гэрмановіча... А побач з гэтым — бюсты Высоцкага, Чайкоўскага, вунь — планшэтка «А. П. Чэхаў», партрэт Тараса Шаўчэнкі...**

— Гэта мае любімыя аўтары, дзеячы культуры. Да прыкладу, я вельмі люблю вершы Т. Шаўчэнкі — і чытаю іх толькі ў арыгінале. Люблю музыку Чайкоўскага, Баха, Моцарта. Вельмі люблю вершы й песні Уладзіміра Высоцкага, маю яго запісы. Маім найлюбімым расійскім пісьменнікам з'яўляецца Антон Паўлавіч Чэхаў.

**— А хто з беларускіх пісьменнікаў найбольш падабаецца вам?**

Люблю пранікнёныя вершы Янкі Лучыны, вострасюжэтныя байкі Вінцука Адважнага (а. Гэрмановіча), добры гумар Ядвігіна Ш. Па маіх перакананнях блізкі перш за ўсё Янка Купала, а з сучасных — Пімен Панчанка з яго зборнікам «Горкі жолуд», Сяргей Грахоўскі з яго актуальнымі творамі аб перажытых ім жудасцях часоў сталінізму.

Сёння нам трэба азірнуцца назад, паглядзець і ўзгадаць, як жылі нашы продкі, бацькі. Вось, скажам, «Дзяды»... Свята гэтае было заснавана дзеля таго, каб прыгадаць сваіх памерлых продкаў, каб рабіць у жыцці такія ж добрыя ўчынкі, якія рабілі яны. Азірнуцца на наша мінулае. Бо той чалавек, які мінулага свайго не памятае, які далёкі ад гэтага, тонча яго, — варты жалю. Быў я неяк на былых нямецкіх, татарскіх, яўрэйскіх могілках. І казаў тым, хто быў са мною: дрэнна, што знішчаны гэтыя могілкі. Людзі тых нацыянальнасцяў не могуць прыйсці й пастаяць над магіламі сваіх продкаў. Усё знесена — на гэтым месцы цяпер так званы парк адпачынку. Гэта ўсё ганебна. Вельмі ганебна.

**— Вы паспелі нямала пабачыць і зведаць за сваё жыццё. Да якой высновы вы прыйшлі? Да чаго нам варта імкнуцца?**

— Да веры. Да міласэрнасці. Да любові да бліжняга. І памятаць, хто мы. Як сказаў наш слынны паэт: «Людзьмі звацца». Вось да гэтага мы й павінны імкнуцца. Каб не выракацца свайго народу, сваёй мовы, сваіх традыцый.

ЧАГО ТОЛЬКІ са мною не здаралася, калі вучыўся ў Маскве! У якія толькі цянёты не трапляў! У якія пасткі не ўскокваў! Пра ўсё не ўспомніш, не раскажаш. Ды адзін выпадак для ўмацавання нашае гультаяватае галоснасці ўсё ж варта прыгадаць, бо ён, выпадак гэты, пераўзышоў усе мае студэнцкія выбрыкі.

Вучыўся гэта я ў Літаратурным інстытуце і клопату з вучобай не меў аніякага. Валачыўся адно, як Ясенін у залатыя часы нэпа, па славутым Цвярскім бульвары — каля нечага спыняўся, да нечага падыходзіў. Да саркафажнага МХАТа, напрыклад. Да тассаўскай будыніны таксама. На той час у яе экранных вокнах выразна і з цвёрдых класавых пазіцый фатаграфічна біўся нястомны пульс краіны і да гэтага нястомнага пульсу, не дыхаючы, прыкладалася рознакаляровым вухам прагрэсіўная частка чалавецтва. Цікава было назіраць...

У запасе, як і ў кожнага маскоўскага паэта, у мяне была вечнасць, у кішэні — стыпендыя імя Канстанціна Сіманава, а ў туманных думках — яшчэ больш туманны Стакгольм. Апошняе, натуральна, пераважала, таму я час ад часу пытаўся ў кіяскёраў, што сядзелі ў акенцах пад шыльдай «Мосгорсправка»: а ці не ведаюць яны дакладны адрас камітэта па Нобелеўскай прэміі? На памяць яны не ведалі гэты адрас і пачыналі нудна, старонка за старонкай праглядаць свае тысячалістыя талмуды, а я тым часам не чакаў — ішоў далей да наступнага кіёска, і шчыра прызнаюся: у застойныя дні нічагусенькі не рабіў такога, што магло хоць бы на дзень наблізіць да народа-працаўніка сённяшнюю перабудову.

У дні свайго студэнцтва быў я невылечным банвіанам.

Цяпер, вядома, шкадую, што пускаў энергію маладую дымам рэстаранным у паветра. Праўда, употайкі я пісаў фрывольныя вершыкі пра стараватых нашых правадыроў, выносячы іхнія прозвішчы ў запамінальныя дактылічныя рыфмы: цячэ ж Нява — Брэжнева; прасціна вам — Усцінава; паненка вам — Черненкава і г. д. Але ўжо тады здагадваўся, што малая гэта цагліна ў светлую сцяну дэмакратыі. Здагадваўся і разам з тым абачліва не пускаў сваю творчасць на крутыя самвыдавецкія сцежкі — адно зрэдку паказваў яе сябру-правізару.

Сябар таксама быў студэнтам, вучыўся на фармфаку, а па начах працаваў — дзяжурыў у аптэцы паблізу ад праспекта Міхалыванавіча Калініна. У вольны вечар я да яго заходзіў туды, іншы раз нават начаваў.

Сябар любіў слухаць маю вершаваную фронду.

Калі я чытаў, ён глядзеў на мяне з той нефальшывай любасцю, з якой Бурацінаў тата некалі ўзіраўся ў бярозавае палена.

Ноччу ў ягоную аптэку звычайна прыходзілі старыя людзі. Ясным яснае, што іхняй старасці, акрамя валідолу і нітрагліцэрыну, нічога не было патрэбна. Ну яшчэ маглі папрасіць свечы з беладонай ды які-небудзь пустырнік.

Аднак жа пасля выявілася, а да гэтага я й вяду, што старыя людзі па начах шукаюць яшчэ і звычайную зялёнку.

Аптэка была маленькая і празрыстая, як шклянка. Нічога ад мяне схаванага ў ёй не было. Я добра ведаў,

**Фелік БАХЧЫНЯН**



## Калі перакладаеш песню

Якубу КОЛАСУ

Калі перакладаеш песню,
Перакладаеш груз з плячэй,
Якія скарб дадому неслі,
Не выбіралі, каб лягчэй.

Як лёгкаю была паклажа,
Бярэш, не баючыся страт,

што дзе ляжыць, на якой паліцы якая пляшачка густа пылам пакрываецца.

Часам, калі мой сябар соладка прыкладаўся патыліцаю да падушкі, а ў дзверы званіў нецярплівы масквіч, я з задавальненнем адсоўваў ад сябе блакнот з рыфмамі і хоць не ведаў ніводнага слова з клятвы Гіпакрата, але ж начныя правізарскія абавязкі спаўняў ад душы...

У Маскве толькі што адбегала, адплавала, адскакала і ўрачыста адфанфарыла Алімпіяда. Толькі што над Лужнікамі ўзняўся, падвешаны да дзіцячых балёнаў, заплаканы мядзведзь. Ён памахаў усім мяккай лапай, пусціў апошнюю развітальную слязу і пад вершы народнага паэта СССР Міколы Дабранравава хуценька памкнуўся ў бок манархічнай Швецыі. Дарма думаць, што палёт у бок Швецыі быў тайна задуманы і цалкам залежаў ад авантурнай ідэі—вось так нечакана развітацца не толькі з маскоўскай Алімпіядай, але і назусім з краінаю Леаніда Ільіча.

Не, прывязаны да балёнаў мядзведзь не збіраўся эміграваць і ў Швецыю паляцеў толькі таму, што яго панёс туды моцны паўднёваўсходні вецер. Дзьмуў бы іншы вецер, ну, скажам, у бок Уральскіх камянёў, то няшчасны Міша паляцеў бы й на Урал.

Да Швецыі, аднак, мядзведзь не даляцеў.

У адной з неспакойных рэспублік Прыбалтыкі, каля самага мора, яго ўгледзелі нашы пільныя жаўнеры-пагранцы са службы процінябеснай абароны. З воклічам ціхага шкадавання: «Эх, Міша, і ты туды ж», яны пусцілі ў алімпійскага любімца паслухмяную ракету.

Пра трагедыю над Балтыкай мы з сябрам даведаліся з дысідэнцкага лістка «Згублены ўраджай». Лісток гэты нехта ўначы падсунуў нам пад аптэчныя дзверы.

Памаўчалі мы, уздыхнулі раз-другі—шкада ўсё ж мядзведзя—і тут жа ў аптэцы й памянулі славутага нябожчыка. Чым памянуць, у аптэцы заўсёды знойдзецца.

Ясней за яснае, што і за здароўе пагранцоў нашых ёмкіх пацяглі мы па кроплі вострай.

Дык гэта вось адсюль, з гэтай самай кроплі вострай, і пачаў да мяне набліжацца той выпадак легендарны, пра які я намерыўся расказаць вам у сваім апавяданні.

Спаласнуўшы колбы, сябар папрасіў:

— Пабудзь за мяне ў аптэцы, гэту ноч хачу лірыцы аддаць.

Хіба адмовіш, пачуўшы такое!

— Аддавай, — кажу, — мне зусім няцяжка масквічоў начных таблеткамі супакойваць.

Сыпануўшы на язык жоўтых аскарбінавых бабкоў (дарэчы, ідучы да дзяўчыны, танную аскарбінку можна ўжываць замест заўсёды нямашнага дэзадаранту), сябар сышоў з аптэкі, пакінуў мяне сам-насам з антыўрадавым лістком «Згублены ўраджай».

Каб час не цёк, а бег, я прачытаў яшчэ раз нататку пра смерць алімпійскага мядзведзя.

Пуск ракеты ананімны аўтар абазваў тэрарыстычным актам і патрабаваў міжнароднага суда. І над кім бы вы думалі? Над жаўнерамі з процінябеснае абароны? Не. Над самім Леанідам Ільічом!



Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# ПРА ТОЕ, ЯК Я АДНОЙЧЫ ДЗЯЖУРЫЎ У НАЧНОЙ АПТЭЦЫ

*АПАВЯДАННЕ*

Ну, гэта занадта, падумаў я. І толькі так падумаў, як у дзверы пазваніў першы нездаровы...

Пасля званілі яшчэ і яшчэ, і не толькі старыя людзі. Які хочаце ўзрост пальцам у званок тыкаў. Нават дзяўчаткі маладзенькія па гумачкі інтымныя прыбягалі.

За ноч нахадзіўся я да дзвярэй, насоўгаўся. Замонаўся зусім. Без прывычкі яно і ў Парыжы цяжка, а тут — аптэка! Таксама прамысловасць хімічная. І мне, задыханаму, часам здавалася, што нашу я не маленькія пушачкі-каробачкі, не дробныя бутлікі сціскаю ў жмені, а цэлыя бярэмкі ўсіх гэтых анальгінаў ды аскафенаў прыціскаю аберуч да грудзей...

Пад самы ранак, калі ў заапарку краснапрэсненскім, успамінаючы сваю радзіму цёплую, пакутніцы малпы закрычалі; калі ўжо павінен быў з лірычнага мацыёну мой сябар вярнуцца, і калі ўжо вочы мае зрабіліся малінавыя, усё адно як лампасы генеральскія,—я н о й навалілася, крыламі сваімі каляровымі залопала...

Толькі гэта я прылёг, прыціснуў плячыма падшыўку «Здоровья», ажно дзверы затрэсліся, ад званка-звону закалыхаліся. Відаць, нехта моцна хворы, падумаў я, ідучы адчыняць, да кнопкі электрычнае прыляпіўся.

І каго ж я за акенцам фанерным убачыў?

Мо, сябра-правізара—вясёлага, шчаслівага падгулялага?

Зусім не.

За фанерным акенцам убачыў я пяцёра-шасцёра мужчын-ахоўвачаў у аднолькавых шынелепадобных апранахах. Трымаючы рукі ў кішэнях, яны стаялі на тратуары паўкругам. Стаялі і маўчалі. Яшчэ хвіліна—і з-за спінаў гэтых маўклівых фігурантаў (зраблю тут перадых!),—без капелюша, з яркімі, нават ноччу, зоркамі ва ўсе бакі пінжака і з узнятым акрываўленым пальцам паволі выйшаў сумны Леанід Ільіч.

Ці вам казаць, што адразу я не паверыў у жывога Леаніда Ільіча. Мне падалося, што гэта з мяне, соннага і стомленага, захацеў пасмяяцца мой дарагі сябар. Пасля шчаслівага спаткання ад няма чаго рабіць недзе здзёр з плота манументальных памераў плакат і, разбудзіўшы мяне інквізітарскім званком, разгарнуў, паразіт, на ўсю шырыню аптэчных дзвярэй гэтую вулічную агітацыю з намаляваным на ёй Леанідам Ільічом і ягонымі маўклівымі хлопцамі. Праўда, на плакатах я ніколі не бачыў, каб Леанід Ільіч быў сумны ды яшчэ з падзёртым пальцам.

Не, гэта ўсё ж быў не выбрык майго любімага сябра-правізара, гэта...

— Добрай раніцы,—сказаў мне Леанід Ільіч, усё трымаючы перад сабой чырвоны палец. Сказаў вельмі проста і чалавечна, як і належыць камуністычнаму правадыру, і паглядзеў на мяне без аніякай хітрасці, як на свайго аднапалчаніна-малазямельца.

Цёплы голас правадыра мяне расчуліў. Паранены палец устрывожыў, і мне зрабілася вельмі сорамна за свае подлыя фрывольныя вершыкі, за свае гнюсныя дактылічныя рыфмы.

Леанід Ільіч падступіў бліжэй, і яго невясёлыя ахоўвачы таксама зрабілі крок наперад.

Я ж ветліва адхіснуўся, здаецца, адышоў назад, хаця ногі мае і не варухнуліся. У пройме фанернага акенца Леанід Ільіч выглядаў зусім падзяржаўнаму, як у тэлевізары.

Ён паклаў свой няшчасны палец на падваконнічак:

— Бачыце... Палез гэта ва ўнутраную кішэню і накалоўся аб гэтую зорку...

Леанід Ільіч даверліва паказаў мне наравістую зорку, што так неспадзявана сваёй драцянай прыколкай абдзёрла яму палец. Далей з тым жа светлым даверам здаровай рукой вывернуў штрыфель, і я ўбачыў, як з глыбіні пінжака сярод іншых прыколак шчупаковым зубам бліснула і зламысная прыколка.

— Смешна прызнацца, але ў маёй машыне не знайшлося ні ёду, ні зялёнкі. Можа, у вас ёсць?

Ах, вось яно што! Зялёнка патрэбна—і ўвесь клопат! А то ўжо галава мая ад поўнай мабілізацыі мазгоў пухнуць пачала.

Я далікатна шмаргануў на дзвярах замком і запрасіў параненага Леаніда Ільіча ў аптэку.

Фігуранты, не вымаючы з кішэняў рук, увайшлі без запрашэння.

І толькі гэта за апошнім ахоўвачам зачыніліся дзверы, як і ўтварыўся самы што ні на ёсць кульмінацыйны момант.

Я паляцеў стукацца галавой аб паліцы—шукаць зялёнку, а Леанід Ільіч сціпла падышоў да століка, на якім, нядбайна пакінуты, ляжаў «Згублены ўраджай»...

— Ужо прачыталі?—пакрыўджана спытаў ён і ўваткнуў у газеціну пашкоджаны палец.

Пляшачка з зялёнкай у маёй памакрэлай далоні імгненна зрабілася ярка-чырвонай. Як мак!

Мне захацелася стаць вар'ятам і я, няма сумнення, ад страху і звар'яцеў бы, каб не добрае сэрца генсека.

— Вам гэту праклamацыю, вядома ж, падсунулі, — зусім па-бацькоўску сказаў Леанід Ільіч.

— Так, так... падсунулі, гады, вось пад гэтыя дзверы! — выкрыкнуў я з палёгкай.

— І мне таксама падсунулі,—уздыхнуў Леанід Ільіч,—і таксама пад дзверы. Вам калі? Ноччу? (Я махнуў галавой.)... Вось і мне ноччу... Вы толькі падумайце, што робіцца? За гэтага дурнога мядзведзя патрабуюць, каб мяне судзілі. Не па-чалавечы гэта. Дый сам мядзведзь, штучка такая з пчоламі ў носе... папёрся проста ў Швецыю! Ну хоць бы братнюю Польшчу выбраў. Слова камуніста, што жывы застаўся б. На польскім напрамку ў нас слабейшае пэвэо стаіць. Вось так... Дык што—давайце вашу зялёнку.

Аперацыя прайшла ўдала. Перавязка таксама. Я далікатна абгарнуў рану, рэшту бінту закінуў Леаніду Ільічу на шыю—зрабіў для зручнасці перавязь. А раптам у машыне палец заные? Самы раз тады ўсю руку ўсунуць у пяцельку—няхай адпачывае.

Мой аперацыйны спрыт спадабаўся Леаніду Ільічу і на самы адыход ён разгаманіўся са мной ужо зусім па-сямейнаму.

— Дык, значыць, у аптэцы працуеце?

— Не-е зусім... Літаратар я.

— Пішаце?

— Угу...

— Я таксама пішу. Што-небудзь маё чыталі?

— А як жа ж, чытаў...

— Спадабалася?

— Вельмі...

За гэты час мы так і не прыселі. Хоць колькі таго часу прайшло? Хвілін пяць, не болей. Аднак было відаць, што Леанід Ільіч стаміўся, што яму, перавязанаму, хочацца ў машыну.

— Хутка памру,—раптам сказаў ён,—а ў Палітбюро поўны завал...

Пасля гэтай генсекавай шчырасці ахоўвачы ў шынелепадобных апранахах па-конску пераступілі з нагі на нагу. Я ж дзеля ўласнай бяспекі, адчуваючы незадаволенасць ахоўвачаў, уцягнуў галаву ў плечы і паспрабаваў апусціць вушы. Каб не пачуць лішняга. Але ўсё ж пачуў.

— Уся надзея на моладзь,—ужо каля дзвярэй прамовіў тое «лішняе» Леанід Ільіч.—Мы тут нядаўна ў склад Палітбюро ўвялі маладога. Гарбачоў яго прозвішча. Я на яго вельмі спадзяюся.

Нічога гаспадар не скажа.
Знаходцы дробнай будзе рад.

Укленчы, перакладчык, скаргам,
Сяброўскай назаві тугу,
І ношку важкую са скарбам
Цягні, сагнуўшыся ў дугу!

## Коні на Ушацкім полі

Васілю БЫКАВУ

«...А для чалавецтва нарадзілі Ушачы добрых паэтаў і Васіля Быкава».

Пімен ПАНЧАНКА

А коні ўсё іржуць буланыя, залётныя,
А ў цёмных іх вачах — маленства наша потнае.

Наіўным рэхам поўніцца ўвесь свет,
Малечых гульняў выбягае след...

Ах, як мне конна хочацца праехацца,
Каб вёрткія вятры сцябалі вехцямі,
Каб білася кашуля падалом,
Як птушка з перавязаным крылом.

Каб казкі зноў шапталі над калыскамі
На вуха сну матулі словы блізкія.
Ты помніш, коню мой, калі з табой
Мы абагнаць хацелі неспакой.

Ты потам пах, як скакуну належала,
Пацелі нівы, туманы начлежныя,
Былі ў палоне светлых мрой усе,
Дрыжэла поўня ў казачнай расе...

Ты помніш, коню мой, як мы з дзівосамі
Развіталіся, сталі дні дарослыя.
Ты помніш сябра з цёплай стараны?
У яго вачах — журботы палыны.

Не, ёсць дзівосы! Памяць зоркай глянула.
Зноў пахнуць коньмі туманы буланыя.
Звініць Ушачам звонам раўчука
Армянскі смех малога хлапчука.

## Тры песні Антаніне

### 1. Нашая ноч

Гэтай ноччу былі мы ўдваіх.
Ты накінула цемры вэлюм.
Дзень патух, дзень аглух, дзень заціх.
Ты і я толькі ў свеце цэлым.

І падобным было на вулкан
Сэрца, што падзялілі надвое.
Сінім цестам сіні туман
Падышоў у дзяжы настрою.

Трэба выдумаць казак шмат
Шчырым зоркам з усмешкай шчырай.
Ты мне дорыш сіні пагляд,
Мусіць стаць ён мне вечнай лірай.

Гэтай ноччу былі мы ўдваіх,
Ці ж Сусвету гэтага мала?
Мы пачулі сябе саміх.
Нас хістала, агнём ап'яняла.

Нас ахутала ў храме цяпло,
Светам стаў замак сіні ў лесе.
Так дыханне маё апякло,
Што здалося — рассыплюся ўвесь я...

І здалося, ратунку няма,
Разарвуцца нябёсы ад крыку,
І пяшчота адфрышыць сама
Ад ракі анямеласці крыгу...

Я адчуў позірк палу нямы
І растаў ад цнатлівага дзіва,
І ў глыбінях спрадвечнасці мы
Зніклі, быццам камета, імкліва...

### 2. Нашае ранне

Ранне нашае нашым было.
Сонца я запаліў да світання.
Дзень наш вечным быў, як святло,
Я на даху накрэсліў каханне.

І ставала святла на зямлі,
І ў душу святло завітала.
У тваіх мае вочы былі,
А ў маіх — ты світала, світала.

### 3. Нашае расстанне

Мы расталіся.
Хто расстраляў наш час?
Двух буслоў у хвіліну пяшчоты
Хто апудзіў?
У цемры начы якраз
Мы згубілі надзею на ўзлёты...
З зоркі ўпала сляза
І Сусвет пагас,
І душа палёў ад маркоты
Задыхнулася.
Хто расстраляў наш час?
Лёс,
Буслоў пакараў за што ты?
Што за птушка пяе ў гэты час
Без нас?..
Ці растануць расстання сумёты?..

З армянскай.
Пераклаў Рыгор БАРАДУЛІН

БТ як самага масавага сродка зносін, БТ як сродка, у пэўным сэнсе, вызначэння і пабудовы новай Беларусі — Рэспублікі, якая толькі-толькі прыняла Дэкларацыю аб Суверэнітэце. Менавіта масавасць тэлебачання і моц яго ўздзеяння падштурхоўваюць да высновы, што БТ павінна быць, так сказаць, парламенцкім, падпарадкоўвацца і даваць справаздачу ў асноўных палітычных і ідэалагічных накірунках толькі вышэйшай уладзе — Вярхоўнаму Савету БССР і З'езду народных дэпутатаў. Чаму? — Таму, што толькі Савет (а можа парламент, сейм, рада?..) будзе ў будучым аб'ядноўваць народных дэпутатаў розных сацыяльных катэгорый, розных партый, грамадскіх арганізацый і рухаў. Толькі максімальная ідэалагічная і арганізацыйная самастойнасць органа, як самага масавага і моцнага, могуць пазбавіць яго ад тэндэнцыйнага ўздзеяння і надаць больш дэмакратызму і пэўнай «нейтральнасці». Да таго ж стукаецца ў дзверы «манапольнага» рэспубліканскага тэлебачання лакальнае, раённае тэлебачанне. Лунае ідэя так званага альтэрнатыўнага вяшчання, якое ўжо сёння зможа выкарыстоўваць спадарожнікі сувязі і перадаваць замежныя праграмы, фільмы. Такая альтэрнатыва можа пастаянна «штурхаць» ці не самы рухомы па сваёй прыродзе грамадскі інстытут — тэлебачанне.

А пакуль у калідорах і кабінетах тэлевежы, што па вуліцы Макаёнка, 9, пры словазлучэнні «альтэрнатыўнае тэлебачанне», тым больш камерцыйнае і тым больш пад назвай «талака» (ці не падобны працэс стварэння тэлевізійнай праграмы на вясковую талаку, калі грамадой, калектыўна, разам?..) з'яўляюцца скептычныя ўсмешкі ці сурова ссоўваюцца бровы...

Каб вызначыць месца БТ у пабудове нацыянальнай, самабытнай, па-сапраўднаму самастойнай Беларусі - дзяржавы, трэба, відаць, вызначыць спачатку, што гэта такое — нацыянальнае тэлевяшчанне? Што павінна адрозніваць яго, скажам, ад ЦТ, ад расійскага, ад украінскага, ад...?

Па-першае, «мясцовая» інфармацыя. Прынамсі, мне ўяўляецца, што яе падрыхтоўка і «выдача» падобны зноў на тую самую «талаку», дзе нават тэлегледачы могуць будаваць інфармацыйны блок — падказаць незвычайны, востры, выключны факт, падзею, асобу па тэлефоне, у лісце, у студыі. (Менавіта так, у садружнасці з тэлегледачамі, стварае свае «600 секунд» знакаміты Саша Няўзораў). Мы мусім знайсці, прыдумаць форму, «адзенне» нацыянальнага вяшчання, самым вялікім каменем у падмурку і сценах якога зробіцца наша мова і, адпаведна, усё, што з ёй звязана. А з ёй звязана ці не ўся сучасная палітычная сітуацыя ў рэспубліцы.

Мы павінны сабе прызнацца яшчэ і яшчэ раз, што, па сутнасці, цераз мову, праз і з дапамогай нацыянальнага слова, мыслення, псіхалогіі рэспубліка можа вызначыцца як Беларусь, а не як Паўночна-Заходні край. І менавіта Беларускае тэлебачанне можа і павінна распаўсюджваць «слоўныя біятокі» беларускай зямлі.

Менавіта тэлебачанне можа і павінна фарміраваць і культываваць «гульню» нацыянальнай фантазіі праз і паводле мелодыкі і словазлучэнняў беларускай мовы, праз і паводле моўнай і інтанацыйнай (нават тэмбравай) эстэтыкі. Вось, калі вы, чытачы-гледачы, заўважыце зрухі ў свабодзе беларускамоўнага мыслення, красамоўнасць, інтэлектуальную і эмацыянальную раскаванасць удзельнікаў перадач, і, асабліва, нашых журналістаў-вядучых,— тады гэта будзе сведчыць, што мы ўсе—па абодва бакі экрана — зрабілі крок у развіцці нацыянальнага інтэлекту. У яго цывілізаваным развіцці!

А пакуль на хвілінку ўспомнім мову і мысленне многіх нашых парламентарыяў на рэспубліканскай сесіі, мову і працэс «экраннага» мыслення нашых тэлежурналістаў, каб усвядоміць: як жа мы павінны спяшацца па шляху самаразвіцця той самабытнай формы быцця народа — мовы, яе лексікі, словаўтварэння і, адпаведна, візуальнай артыстычнасці!

Як кажуць, «яшчэ ўчора» наспела неабходнасць карэнным чынам перагледзець нашы тэлевізійныя міжнацыянальныя зносіны, зрабіць іх сапраўднымі сучаснымі зно-сі-на-мі з непасрэднай чалавечай рэакцыяй. Ці не цікава будзе нашаму тэлегледачу глядзець не запіс, а прамы эфір «тэлемаста», скажам, з Эстоніяй, Малдовай, або з Казахстанам, Варкутой, дзе, дарэчы, шмат жыве беларусаў з часоў сталінскага «вялікага перасялення»?

Увогуле наспеў і працэс пашырэння беларускамоўнай «тэлеаўры»: свет павінен чуць музыку мовы аднаго са сваіх народаў. Голас-мову-роздум Беларусі павінны чуць за мяжой. Але замежнае вяшчанне для БТ—«белая пляма», «зямля невядомая». Відаць, трэба і карэнным чынам пераасэнсоўваць паняцце «замежнае вяшчанне Беларусі» ў кантэксце суверэнітэту саюзных рэспублік і, зразумела, нашай Дэкларацыі аб незалежнасці. Таму ці не цікава паспрабаваць заключыць дагавор з сімі-тымі замежнымі тэлекампаніямі аб абмене тэлеінфармацыяй (і, адпаведна, паспрабаваць зарабіць валюту)? Спачатку, магчыма, можна было б выйсці на заключэнне аднабаковых кантрактаў з тэлекампаніямі або асобнымі іх прадстаўнікамі - тэлежурналістамі, дзе беларускія асобныя журналісты або тэлерэдакцыі могуць выступаць у якасці спецкораў. Ці не цікава гэта, калі наша мова загучыць з замежнага экрана? І вы, чытач, справядліва заўважыце: навошта гэтыя рытарычныя пытанні, даўно пара, чаго вы там сядзіце! Сядзелі, так. То, можа, зараз паспрабуем зварухнуцца...

Невялікі вопыт тэлезносін чатырох рэспублік у нас ёсць: маладзёжная праграма «Магістраль», у якой удзельнічалі Эстонія, Латвія, Літва і Беларусь. І амаль сканала гэта праграма, таму што «занадта» разыходзяцца пазіцыі прыбалтаў з нашай афіцыйнай устаноўкай на саюзнае падпарадкаванне, «занадта» смела і незалежна гавораць моладзь нашых рэспублік-суседак. А беларусам часам не хапае аргументаў, майстэрства вядзення дыялога, дыскусіі, інтэрв'ю, каментарыя. Дый да таго ж мо й наша, беларуская «сусветная» сціпласць замінае? Як замінаюць і хібы журналісцкай (чытай — дзяржаўнай, агульнакультурнай, камунікатыўнай, псіхалагічнай, ідэалагічнай) падрыхтоўкі? У тым ліку падрыхтоўкі ў плане, так мовіць, «электронна-дзяржаўнага мыслення». Гэта значыць мыслення і зносін праз ЭВМ, спадарожнікі сувязі, праз магчымасці электронікі як сістэмы сродкаў новай эстэтыкі — спецэфектаў, электроннага дызайну, камп'ютэрнага «афармлення» вяшчання. І ўсё ж мысленне, як тое біблейскае «слова», што было напачатку, павінна быць наперадзе, каб ва ўнікальных гістарычных ўмовах асэнсаваць пазіцыі дзяржаўнасці Беларусі не як «малодшай сястры», а як самастойнай суверэннай дзяржавы з еўрапейскай шматвяковай гісторыяй.

---

нямала маладых адметных выканаўцаў, якім проста няма дзе раскрыць свой творчы патэнцыял.

І вось ужо сёлета давялося мне выступіць з першым сольным канцэртам у родным горадзе, куды я вярнуўся пасля вучобы ў кансерваторыі. Публіка, якую ў асноўным складала студэнцкая моладзь, вельмі зацікаўлена слухала фартэпіянныя творы венскіх класікаў, Ф. Ліста, С. Рахманінава. Сустрэча з **Музыкай**, на мой погляд, адбылася.

Праз тыдзень быў наладжаны вечар камернай інструментальнай музыкі. Выканаўцы — выкладчыкі музычнага вучылішча Віктар Гільдзюк (скрыпка) і Алена Лябецкая (фартэпіяна). Праграму склалі санаты Л. Бетховена, І. Брамса, творы П. Чайкоўскага і іншых кампазітараў. Канцэрт не толькі паказаў майстэрства выканаўцаў, іх тонкае адчуванне розных музычных стыляў, а і зазначыў нараджэнне новага творчага саюза, у якога ёсць добры выканаўчы патэнцыял. На жаль, публікі было ўсяго каля сарака чалавек. Гэта асабліва горка яшчэ і таму, што канцэрт быў дабрачынны.

А ў Міжнародны дзень музеяў у Рэспубліканскім музеі гісторыі рэлігіі зноў адбыўся дабрачынны канцэрт. У першым аддзяленні выступіў хор музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам Л. Іконнікавай, у другім іграў аўтар гэтых радкоў.

Харавы калектыў Л. Іконнікава — ужо даволі вядомы ў вобласці, нават набывае славу прафесійнага. І слухачы дабрачыннага канцэрта пераканаліся, як своеасабліва і вельмі тонка чуе музыку кіраўнік хору, як перадае сваю чуласць калектыву, як захапляе яго сваёй самаадданасцю ў кожным творы; як добра акампануе канцэртмайстар Р. Нікіціна, выкладчыца музычнага вучылішча.

Уласнае выступленне я вырашыў пачаць з размовы пра творы, якія меўся іграць. Здавалася, кароткая гутарка парушыла псіхалагічныя бар'еры паміж мною, піяністам, і аўдыторыяй. Выканаўшы «Карцінкі з выстаўкі» М. Мусарскага, Санату С. Пракоф'ева, творы А. Бандарэнкі, я адчуў паразумеласць з залай. Аднак... засмучала, што запоўнена яна была на якую трэць.

Наогул жа, канцэрты з удзелам маіх калег — гродзенскіх музыкантаў наводзяць на думку, што нашы творчыя сілы ўжо даўно маглі б быць заўважаны тымі «працаўнікамі культуры», якія дагэтуль усё кіруюць ёю, не з'яўляючыся нават паслухаць такія вось канцэрты. Па сутнасці гэтыя канцэрты — культурна - асветніцкія, грошай ад іх музыканты не маюць. Шкада, што праходзяць яны ў незапоўненых залах. Мо таму, што рэклама гэтых «пазапланавых» канцэртаў знаходзіцца на ўзроўні «савецкай рэкламы», што гучыць там «некамерцыйная» класічная музыка?.. Тым не менш, як гавораць супрацоўнікі музея, на канцэрты сваіх, гродзенскіх выканаўцаў гараджане ідуць усё ж больш, чым на гастралёраў з ганаровымі званнямі. Гэта дае пэўныя спадзяванні на будучыню, на магчымасць адраджэння сваёй культуры.

Сёння ўсе навокал гавораць пераважна пра набліжэнне эканамічнай рэформы. А трэба падумаць і пра дзень будучы, заўтрашні. Чаго ён будзе варты — без культуры? З якім багажом **культуры** падыдзем мы да яго?

**Уладзімір ЛЯБЕЦКІ,**
**загадчык аддзялення музычнага выхавання педвучылішча.**

г. Гродна.

---

# Міхась КАЛАЧЫНСКІ



10 жніўня 1990 года на 74-м годзе жыцця памёр вядомы беларускі паэт, член КПСС з 1942 года, заслужаны работнік культуры БССР, персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння Міхась (Міхаіл Іванавіч) Калачынскі.

М. І. Калачынскі нарадзіўся 12 студзеня 1917 года ў гарадскім пасёлку Крупкі Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў старшым піянерважатым, потым літработнікам у Крупскай раённай газеце. Скончыў курсы пры Камуністычным інстытуце журналістыкі ў Мінску. Працаваў адказным сакратаром рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Франтавы шлях прайшоў армейскім журналістам. У пасляваенны час працаваў у вайсковых газетах. Рэдагаваў альманах «Советская Отчизна», з 1960 па 1978 год — галоўны рэдактар часопіса «Беларусь». Быў адказным сакратаром, а затым намеснікам старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Пачаў друкавацца ў 1932 годзе. Ён аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі — «Сонца ў блакіце», «У вялікім паходзе», «Прыпар», «Сосны і дзюны», «Гронка рабіны», «Паясы», «За палямі, за лясамі», «Докшыцкі каравай» і іншых. Плённа працаваў паэт і на ніве дзіцячай літаратуры. У розныя гады з-пад яго пяра выходзяць кнігі «Насустрач жыццю», «Лясныя казкі», «Прыгоды патапкі», «Мая мазаіка». Неаднаразова творы Міхася Калачынскага выдаваліся на мовах народаў СССР і свету. Працаваў ён і ў галіне мастацкага перакладу.

Міхась Калачынскі — паэт самабытнага таленту, высокага грамадзянскага гучання. Няўрымслівы змагар за народныя ідэалы, ён напаўняў свае творы шчырым святлом любові да Радзімы, да бацькаўшчыны, да чалавека працы.

Баявыя і працоўныя заслугі М. І. Калачынскага высока ацэнены Радзімай. Ён узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Айчыннай вайны і двума ордэнамі «Знак Пашаны», многімі медалямі.

Светлая памяць пра паэта-камуніста, натхнёнага майстра паэтычнага слова Міхася Калачынскага назаўсёды захаваецца ў сэрцах тых, хто ведаў яго.

**В. А. ПЯЧЭННІКАЎ, Н. М. МАЗАЙ, К. К. АТРАХОВІЧ (Кандрат Крапіва), В. У. АДАМЧЫК, Р. І. БАРАДУЛІН, І. А. БРЫЛЬ, В. У. БЫКАЎ, Я. К. ВАЙТОВІЧ, А. С. ВЯЛЮГІН, А. І. ВЯРЦІНСКІ, А. М. ГЕРАСІМЕНКА, Н. С. ГІЛЕВІЧ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, А. П. ЖАЛЯЗОЎСКІ, С. І. ЗАКОННІКАЎ, В. В. ЗУЁНАК, Ц. В. КРЫСЬКО (Васіль ВІТКА), А. П. КУДРАВЕЦ, У. С. ЛІПСКІ, А. А. КАРАТАЙ (Максім Лужанін), Т. К. МАЛІНОЎСКІ, М. І. МІСУНА, У. П. НЯКЛЯЕЎ, Р. В. НЯХАЙ, І. Я. НАВУМЕНКА, П. Е. ПАНЧАНКА, У. А. ПАЎЛАЎ, А. У. ПІСЬМЯНКОЎ, А. С. РУСЕЦКІ, А. У. РУСЕЦКІ, Я. І. СКУРКО (Максім Танк), М. С. СТУКАЧ, В. П. СУПРУНЧУК, І. Г. ЧЫГРЫНАЎ, І. П. ШАМЯКІН, А. А. ШАБАЛІН, Г. У. ШЫЛОВІЧ.**

---

## РАЗВІТАЛЬНАЕ

**Не ў Рым святы
І не ў спякотны Крым,
А як спрадвек наканавана
богам,
На могілкі, што хмарай лес
акрыў,
Вядуць усе шляхі
І ўсе дарогі.**

**Канторы надмагільная карчма
Імя як даўжніка занесла
ў кнігу.
Бы ледалом уздыбіўся
старчма —
Пліт мармуровых —
Каля крыгі крыга!**

**Хто можа глыбу
Смутку і тугі
Скаціць з душы альбо цяжар
узважыць?
Труны жалобнай зеўраць
берагі,
Што векам і цвікоў вузламі
Звяжуць.**

**Вяшчуючы,
Зязюля ў ранні час
Яму гады ўжо болей не
палічыць.
Схіліся, неба, і ў апошні раз
Запомні гэта ціхае аблічча!**

**Паўдзён самлелых не
расчэпіць рук
Пад векавым скляпеннем
пантэона.
І зараз ён, труны смалісты
зруб,
У бездань апраметную патоне.**

**А дзень гудзе, нібыта
з кірмаша
Вяртаецца улегцы і з вазамі.
Грымі скразнымі вёрстамі,
шаша,
Што Мінск з кутком паэтавым
Звязала!**

**Абрабаваў боль страты,
абабраў,
Магчыма, больш, чым іншымі
часамі.
Ідуць аблокі гуртам з-пад
Бабра,
І коціцца валун неабчасаны.**

**Каменны бог, каменны
патрыярх!
Агнём яго душу пакуты
паляць.
Ён сядзе земляку у галавах,
Каб вартаваць яго спакой
І памяць.**

**Дармо, што выб'юць горкі
некралог,
І цішыня застыне скрухай
немай,
Ягонае каменнае крыло
Ірвацца будзе ветразем
У неба!**

**Не бачна дня з-за гора і тугі,
І не сабрацца з сілай, бы
ў задуху.
Міхась Іванавіч, зямляк мой
дарагі,
Хай станецца зямля навекі
пухам!**

**Васіль МАКАРЭВІЧ.**

---

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка КАЛАЧЫНСКАГА Міхаіла Іванавіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса «Беларусь» смуткуе ў сувязі са смерцю былога галоўнага рэдактара часопіса, вядомага беларускага паэта Міхася КАЛАЧЫНСКАГА і выказвае спачуванне сям'і, родным і блізкім нябожчыка.**

(Пачатак на стар. 5).

нездавальняючым. Чым жа быў ушчэрбны для Маркса сацыялізм XVIII стагоддзя? Маркс гаворыць пра гэта зусім пэўна: ён не ўказваў рэальных шляхоў, што вядуць да пабудовы грамадства, заснаванага на прынцыпах сацыялізму. Таму ён і назваў гэты сацыялізм утапічным. І меў, безумоўна, рацыю: любая ідэя толькі тады набывае навуковы і грамадска значны сэнс, калі ўказаны шляхі яе рэалізацыі. У адваротным выпадку яна ёсць усё, што хочаш: гульня ўяўлення, плён фантазіі, ідэалагічны фантом, толькі не ідэя ў навуковым змесце гэтага паняцця.

Напрыклад, сёння ў модзе гуманны, дэмакратычны сацыялізм. Я нічога не маю супраць сацыялізму, тым больш гуманнага і дэмакратычнага. Але мне хацелася б ўсё ж ведаць: што гэта такое— гуманны, дэмакратычны сацыялізм і чым ён адрозніваецца, папершае, ад іншых сваіх разнавіднасцей, па-другое, ад таго ж капіталізму? Нарэшце, і гэта галоўнае, вынікам якіх аб'ектыўных грамадскіх працэсаў ён паявіцца на свет божы? Паколькі адказаў на гэтыя законныя пытанні я не знаходжу, у мяне няма абсалютна аніякіх падстаў разглядаць ідэю гуманнага, дэмакратычнага сацыялізму як навуковую ідэю.

Мы можам колькі хочаш знеслаўляць нашых артадоксаў за кансерватызм мыслення, нежаданне спусціцца з завоблачных вышынь сваіх «прынцыпаў» на грэшную зямлю — яны вартыя таго. Але ў адным артадоксы маюць рацыю: тыя меры, якія прапануюцца як крокі на шляху да гуманнага, дэмакратычнага сацыялізму, нічога спецыфічна сацыялістычнага ў сабе не заключаюць. Ці не так? Можа, гэтым спецыфічна сацыялістычным з'яўляецца рыначная эканоміка? Дык жа яна існуе ва ўсім свеце. Рэгулюемая рыначная эканоміка? Тут трэба паглядзець, што мы пад ёй разумеем. Калі мы маем намер рэгуляваць рынак з дапамогай эканамічных механізмаў, дык гэта ўжо робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах. Калі ж з дапамогай адміністрацыйнага дыктату, дык няма чаго гарод гарадзіць — гэтым мы займаемся ўжо амаль тры чвэрці стагоддзя. Можа, прававая дзяржава — атрыбутыўная ўласцівасць сацыялізму? Але ідэя прававой дзяржавы таксама не плён гуманна-сацыялістычнага мыслення. Прававая дзяржава існуе ў Англіі, Бельгіі, Францыі і г. д. Вось я і не вазьму аніяк да розуму: усё, да чаго мы яшчэ толькі імкнёмся, даўно ўжо стала здабыткам чалавечай цывілізацыі. Але чамусьці ў іх гэта капіталізм, а ў нас павінна іменавацца гуманным, дэмакратычным сацыялізмам.

І тут мне міжволі прыходзіць на памяць адна старая французская прытча. Жыў калісьці набожны манах Гаранфло. І трэба ж такому здарыцца, што менавіта ў посны дзень страшэнна захацелася манаху пакаштаваць свежай курацінкі. Што рабіць, як вырашыць гэтую антыномію: і курацінай паласавацца, і бога не прагнявіць? Думаў манах думаў і прыдумаў: узяў ды і здзейсніў над курыцай абрад святога хрышчэння, назваўшы курыцу карасём. Ну а рыбу, як вядома, святая царква не забараняе есці нават у посны дзень. Вось я і думаю: ці не хочам мы здзейсніць над капіталізмам абрад святога хрышчэння, абавязаўшы яго называцца з гэтага часу не капіталізмам, а гуманным, дэмакратычным сацыялізмам. Выгода відавочная: і справы свае паправім, і марксісцка-ленінскую сваю цнатлівасць зберажом. А калі сур'ёзна, дык ці не час выкінуць на гістарычны сметнік ідэалагічныя бразготкі, як гэта ўжо даўно зрабілі ўсе разумныя людзі, і даць, нарэшце, магчымасць грамадству развівацца па сваіх уласных, і манентна ўласцівых яму законах? Няўжо нас не пераканала жыццё: «капіталістычны» хлеб зусім прыдатны для «сацыялістычнага» страўніка. Але як бы там ні было, трэба, напэўна, пагадзіцца ў адным: ідэя гуманнага, дэмакратычнага сацыялізму, паколькі яна навукова не абгрунтавана, у лепшым выпадку можа быць аб'ектам веры, але ва ўсякім разе не прадметам сур'ёзнай дзяржаўнай палітыкі. Тут мае сімпатыі цалкам на баку Маркса, які крытыкаваў сваіх ідэйных папярэднікаў за утапізм.

# ...І назвалі курыцу карасём

Што ж прынцыпова новае было ўнесена Марксам у «сацыялістычную ідэю», што пераўтварыла яе, як думаў сам Маркс, а ўслед за ім і ўсе яго саратнікі і вучні, «з утопіі ў навуку»? У самым агульным выглядзе на гэтае пытанне можна было б адказаць так: Маркс лічыў, што яму ўдалося намацаць рэальныя шляхі, якія вядуць да матэрыялізацыі гэтай ідэі, пераўтварэння яе з феномена чыстай свядомасці ў факт існай рэчаіснасці.

Перш за ўсё Маркс зыходзіў з той дыялектычна-матэрыялістычнай пасылкі, што працэс грамадскага развіцця, нягледзячы на яго свядомы і мэтазгодны характар, такі ж аб'ектыўны, як і працэс развіцця прыроды, г. зн. падпарадкоўваецца пэўным законам, якія чалавеку не падуладны. Чалавек можа толькі спазнаць іх і ўзгадніць з імі сваю дзейнасць. У гэтым і заключаецца сапраўдная свабода чалавека: не ў залежнасці ад законаў прыроднага і сацыяльнага быцця, а ў здольнасці дзейнічаць у адпаведнасці з гэтымі законамі.

Ці меў рацыю Маркс? Безумоўна, меў, што б ні гаварылі крытыкі, якія менавіта гэтак разумеюць ідэю свабоды. Як я спрабаваў даказаць («ЛіМ», 1990, № 12), уся гэтая крытыка грунтуецца альбо на непаразуменні, альбо на вульгарна-прагматычным яго, гэтага разумення, вытлумачэнні, якое не мае нічога агульнага з дыялектыкай. Ісціннасць дыялектыкі і слушнасць Маркса, які прытрымліваўся ў дадзеным выпадку яе прынцыпаў, пацверджана ўласна нашай гісторыяй. Менавіта валюнтарызм, імкненне быць разумнейшымі за само жыццё і прывялі нас да ўсеагульнай грамадскай катастрофы: разбурэння прыроднага асяроддзя, эканомікі, культуры, прававога і маральнага нігілізму.

Што ж, аднак, вынікала з гэтай пасылкі? Вынікала адно: калі сацыялізм не плён пустой фантазіі, не выдумка летуценнікаў, дык яго карані павінны ляжаць у самім жыцці, а значыць, і з'явіцца ён можа толькі як натуральны вынік логікі самога жыцця, унутраных механізмаў яго развіцця. Намаганні Маркса з гэтага часу і накіраваны на тое, каб ускрыць гэтыя механізмы.

Тое, што існуючыя формы грамадскага жыцця гістарычна асуджаны, — гэта для Маркса было відавочна. І не толькі таму, што вынікала з самой сутнасці дыялектыкі, якая бачыць на кожнай з'яве адзнаку яе непазбежнай пагібелі. Увесь шматвяковы вопыт чалавецтва сведчыць аб ненарушнасці гэтай старой мудрасці: няма нічога вечнага пад Месяцам. Формы чалавечай супольнасці пастаянна мяняюцца: родаплеменны лад змяніўся рабаўласніцкім, на змену яму прыйшоў феадалізм, які, у сваю чаргу, вымушаны быў саступіць месца капіталізму. Няма абсалютна ніякіх ні лагічных, ні фактычных падстаў думаць, што капіталістычная форма грамадскага ладу — той ідэал, які ўвабраў у сябе ўсю мудрасць гісторыі.

Усё гэта так. Але адсюль яшчэ зусім не вынікае, што новыя формы, якія ідуць на змену капіталізму, — гэта і ёсць тыя формы, абрысы якіх былі акрэслены сацыялістамі-утапістамі. На жаль, Маркс забывае на другую, такую ж старажытную мудрасць: няма нічога новага пад Месяцам. Як бы ні мяняўся чалавек і формы чалавечай супольнасці, ён застаецца чалавекам, а значыць і формы яго грамадскага ўладкавання не могуць супярэчыць карэнным уласцівасцям чалавечай прыроды. Маркс думае інакш. Па яго перакананні, чалавек, змяняючы прыроду, змяняе і сваю ўласную прыроду. Менавіта ў гэтым, цэнтральным пункце Маркс і робіць сваё першае святатацтва перад дыялектыкай.

Маркс, вядома, кажа праўду: чалавек — істота грамадская. Але, вылучыўшыся з прыроды і супрацьпаставіўшы сябе ёй, чалавек зусім не ператвараецца ў нешта надпрыроднае і звышнатуральнае. Чалавек — не толькі прадукт прыроды, але і частка прыроды, а таму знаходзіцца з ёй не толькі ў генетычнай, але і ў глыбокай актуальнай сувязі. Разглядаць чалавека толькі як «сукупнасць грамадскіх адносін» — значыць, начыста перагарадзіць сабе шляхі да разумення чалавека, бо сутнасць чалавека і сапраўднае яго багацце — у багацці ўзаемаадносін з усёй бясконцай прыродай. Грубая сацыялагізацыя чалавека несумяшчальная з дыялектыкай, для якой прырода і грамадства — не дзве сумежныя і толькі вонкава спалучаныя рэальнасці, а супярэчлівыя бакі адзінай рэальнасці, імя якой Універсум. У гэтых межах ісціна не на баку Маркса, а на баку крытыкуемага ім Феербаха.

Праўда Марксава і ў тым, што «чалавек — не абстракт, уласцівы асобнаму індывіду». Чалавек — гэта свет чалавека, свет, у якім ён жыве. Але гэта ўсё ж свет чалавека, а не адарваная ад чалавека, а таму невядома дзе і як існуючая «сістэма грамадскіх адносін». Грамадства, адарванае ад кожнага дадзенага канкрэтнага індывіда — такая ж мысліцельная абстракцыя, як і асобны індывід, узяты ў яго адарванасці ад грамадства. Таму зусім відавочна, што і грамадскі інтарэс, якім апeрыруе марксізм, у яго ізаляцыі ад індывідуальнага інтарэсу — не больш чым мысліцельная абстракцыя. Абстракцыя, праўда, як паказаў наш вопыт «сацыялістычнага будаўніцтва», досыць зручная, бо дазваляе выдаваць за гэты грамадскі інтарэс карыслівыя інтарэсы правячай партыйна-дзяржаўнай вярхушкі. Але якраз чалавеку і не знаходзіцца месца ў марксісцкай сацыялістычнай дактрыне. У разуменні і выкладанні Маркса гістарычны працэс — безасабовы працэс. У ім ёсць законы, ёсць класы, але няма галоўнага — чалавека. Таму, нягледзячы на ўсяляк рэкламуемую гуманнасць марксізму-ленінізму, дактрына гэтая па сутнасці глыбока антыгуманная.

На самай справе. Ніхто ж іншы, а менавіта Маркс лічыў, што аснову незалежнасці чалавека, а значыць, яго і грамадзянскіх і палітычных свабод складае эканамічная незалежнасць. Думка больш чым слушная. Але як, якім чынам яна можа быць сумешчана з адмаўленнем тым жа Марксам права чалавека валодаць уласнасцю? Мне могуць запярэчыць: чалавек, па Марксу, з'яўляецца суўласнікам грамадскай уласнасці. Усё гэта якраз і ёсць адна з ілюзій марксісцка-ленінскай канцэпцыі сацыялізму. І горкі наш вопыт — лепшы таму доказ.

Чытач, напэўна, памятае надзвычайнае здзіўленне, якое выказаў М. С. Гарбачоў на XXVII з'ездзе КПСС: як жа так, наш заўсёдны гонар, наша найвялікшая заваёва — грамадская ўласнасць аказалася на паверку нічыйнай? Гэтага не можа быць, тут яўная «дэфармацыя сацыялізму». А разам з тым здзіўляцца тут няма чаму, інакш і быць не магло. Бо як грамадства, адарванае ад жывых чалавечых індывідаў, ёсць усяго толькі мысленае, а не рэальна існуючае грамадства, так і грамадская ўласнасць, узятая паза сваіх прыватных формаў, г. зн. адарваная, адчужаная ад канкрэтных уласнікаў, ёсць усяго толькі мысленая, а не рэальна існуючая ўласнасць. Безасабовай, абесчалавечанай гісторыі, якой яна паўстае ў канцэпцыі Маркса, можа адпавядаць толькі такая ж безасабовая, нічыйная ўласнасць. Само сабой разумеецца, што такую гісторыю можна стварыць толькі ў галаве, рэальная гісторыя населена людзьмі. Але дакладна гэтак жа і грамадская ўласнасць — не больш чым стварэнне чыстай думкі, у рэальнасці ўласнасць абавязкова камусьці належыць.

На жаль, гісторыя злосна пасмяялася з Маркса. І пасмяялася невыпадкова. Яшчэ Гегель заўважыў дзіўную заканамернасць, якую ён назваў «іроніяй гісторыі»: чалавек імкнецца да аднаго, а вынік атрымліваецца проста адваротны. Маркс быў перакананы, што абагуленая ўласнасць тут жа стане здабыткам кожнага чалавека. На самай жа справе ў выніку гэтай акцыі ўвесь народ пазбавіўся ўласнасці. Маркс быў перакананы, што, абагуліўшы ўласнасць, мы раз і назаўсёды скончым з яе прыватнай формай. На паверку ж аказалася, што ўласнасць проста не можа належаць абстракцыі, якая называецца грамадствам, яна шукае жывога, рэальнага гаспадара. Таму ўласнасць як была, так і засталася прыватнай уласнасцю, прыняўшы толькі іншую форму, апынуўшыся ў руках тых, хто выступае ад імя грамадства. Маркс быў перакананы, што грамадская ўласнасць раз і назаўсёды ліквідуе магчымасць любой эксплуатацыі. На паверку ж аказалася, што эксплуатацыя прымае ў гэтым выпадку яшчэ больш жорсткую, бесчалавечную форму, бо эксплуататарам аказваецца тут дзяржава-манапаліст і партыйна-дзяржаўная бюракратыя, што выступае ад яе імя. Маркс быў перакананы, што, абагуліўшы ўласнасць, мы створым умовы для палітычных і грамадзянскіх свабод. На самай жа справе атрымалася ўсё наадварот: чалавек трапіў у поўную залежнасць ад дзяржавы, стаўшы яе бяспраўным і бязмоўным рабом.

Чаму ж гісторыя так жорстка пажартавала з Марксам? Менавіта таму, што яна не дазваляе жартаваць з самой сабой, не дазваляе парушаць свае законы. Парушыўшы закон, які на абстрактнай мове матэрыялістычнай дыялектыкі называецца законам адзінкавага і агульнага, Маркс адарваў грамадства ад чалавека, метафізічна супрацьпаставіў яго чалавеку, у выніку чаго і грамадская ўласнасць, якая, на яго думку, павінна была сцвердзіцца ў новым, сацыялістычным грамадстве, аказалася не рэальнай уласнасцю, а ўсяго толькі мысленай канструкцыяй і добрым пажаданнем. Гісторыя пайшла, вядома, сваёй дарогаю, мала лічачыся з тым, якія маршруты падрыхтавалі ёй тэарэтыкі сацыялізму і прыхільнікі сацыялістычнага выбару. Шкада толькі, што гэтая яе «іронія» абярнулася трагедыяй для мільёнаў ні ў чым не вінаватых людзей.

Маркс зыходзіў з той дыялектычна - матэрыялістычнай прадпасылкі, што гістарычная заканамернасць мае, у адрозненне ад заканамернасцей прыроды, тую асаблівасць, што яна рэалізуецца праз свядомую і мэтазгодную дзейнасць людзей. Гісторыя, гаворыць ён, ёсць гісторыя мэтаімкнёнага грамадскага чалавека. І гэта сапраўды так. Гісторыя — не сляпы і безасабовы працэс, у ёй дзейнічаюць людзі, адораныя кожны сваімі патрэбамі, інтарэсамі, воляй. Гісторыя — гэта іх гісторыя, і яны яе творцы. Але калі гэта так, дык, пэўна, задача тэарэтыка, які паставіў сабе за мэту ўскрыць унутраныя механізмы функцыянавання і развіцця грамадства, заключаецца ў тым, каб зразумець: як і якім чынам людзі робяць сваю гісторыю? Маркс знаходзіць гэты механізм у законе класавай барацьбы.

Мае тут рацыю Маркс ці не мае? Безумоўна, мае. Перш за ўсё з пункту гледжання дыялектыкі, якая разглядае крыніцу ўсякага руху і развіцця ва ўласцівых любой з'яве супярэчнасцях. І калі грамадства развіваецца ў сілу ўнутрана ўласцівых яму супярэчнасцей і вырашэння іх, а гісторыю грамадства твораць людзі, дык ці не відавочна, што вырашэнне гэтых супярэчнасцей павінна абавязкова прымаць форму барацьбы тых грамадскіх сіл, якія стаяць за гэтымі супярэчнасцямі, форму барацьбы класаў. Марксава праўда і з пункту гледжання гістарычных фактаў. Бо гісторыя грамадства, як было паказана не толькі Марксам, але і, напрыклад, французскай гістарыяграфіяй (Т'еры, Міньэ, Гізо), ёсць гісторыя класавай барацьбы. Усё пытанне толькі ў тым, каб не трактаваць гэтую барацьбу супярэчнасцей на манер сваркі дзвюх прадстаўніц прыгожага полу на камунальнай кухні. Ці ўтрымаўся Маркс на вышыні гэтай задачы? Па маім глыбокім перакананні, не. Тут ён зрабіў другое сваё святатацтва перад дыялектыкай. Я не магу вытлумачыць гэта інакш, як толькі тым, што ідэолаг узяў у Марксе верх над тэарэтыкам.

Дазволю сабе нагадаць чытачу асноўны змест дыялектычнага закона тоеснасці супярэчнасцей. Без гэтага нам проста не абысціся. Дык вось, пра што гаворыць гэты закон? Ён гаворыць, што кожная з'ява ўнутрана супярэчлівая. Узаемадзеянне бакоў гэтай супярэчнасці і забяспечвае працэс развіцця дадзенай з'явы, выступае крыніцай гэтага працэсу. Пры гэтым істотна важна ўлічваць тры моманты. Па-першае, узаемную абумоўленасць бакоў супярэчнасці, якая выяўляецца ў тым, што яны не сумежныя, а ўяўляюць сабой толькі адваротныя бакі аднаго і таго ж. Скажам, жыццё і смерць — гэта ж не два самастойныя, існуючыя асобна працэсы, а толькі адваротныя бакі адзінага працэсу функцыянавання і развіцця жывога арганізма. Старажытныя казалі праўду: жыць — значыць паміраць, паміраць — значыць жыць. Па-другое, што бакі супярэчнасці абсалютна раўнапраўныя, г. зн. тут няма вядучага і вядомага боку. Недарэчна было б ставіць пытанне: што ў працэсе дыхання з'яўляецца вядучым, а што вядомым бокам — удых ці выдых. Не ўдыхнуўшы, не выдыхнеш, але ж не выдыхнуўшы, таксама не ўдыхнеш. Гэтая іх раўнапраўнасць і ляжыць у аснове таго, што ў выніку вырашэння супярэчнасці гінуць абодва бакі, вынікам чаго і з'яўляецца тое, што ўзнікае якасна іншая з'ява, з іншымі, толькі ёй уласцівымі супярэчнасцямі. І, нарэшце, па-трэцяе, гібель бакоў супярэчнасці не ёсць простая іх анігіляцыя, простае знішчэнне. Тут адбываецца працэс, які Гегель назваў узаемазняццём, г. зн. узаемным пераходам аднаго боку ў другі.

Усе гэтыя тры прынцыпы дыялектыкі праігнараваны Марксам. Маркс пачынае з таго, што парушае прынцып узаемнай абумоўленасці бакоў супярэчнасці. Пралетарыяту, кажа ён, няма чаго траціць у гэтым грамадстве, акрамя сваіх ланцугоў. Што ж, як прапагандысцкі лозунг — гэта цудоўна. Як тэарэтычная ідэя — надзвычай кепска. Бо пралетарыят не менш мае патрэбу ў буржуазіі, чым буржуазія мае патрэбу ў пралетарыяце. І не толькі таму, што вытворчасць вымагае спалучэння сродкаў вытворчасці з рабочай сілай. Справа і ў тым, што адна грубая фізічная сіла не робіць яшчэ надвор'я ў вытворчасці. Патрэбна яе арганізацыя, патрэбна кіраванне вытворчымі працэсамі, патрэбны новыя тэхнічныя і тэхналагічныя ідэі — ды ці мала што патрэбна для нармальнага функцыянавання і развіцця вытворчасці. Маркс, пэўна, як пазней і Ленін, меркаваў, што кожная кухарка калі ўжо не дзяржавай, дык, як мінімум, вытворчасцю кіраваць зможа. Жыццё хутка вылечыла Леніна ад гэтай ілюзіі, змусіўшы пайсці на паклон да гэтак ненавісных «буржуазных спецаў». Перад Марксам практычныя задачы не сталі, таму ён мог аддавацца ілюзіям з поўнай сваёй асалодаю.

Маркс парушае прынцып раўнапраўнасці бакоў супярэчнасці, пастулюючы асаблівую месіянскую ролю пралетарыяту ў развіцці грамадства. На чым жа заснаваны гэты пастулат? Толькі на адным: паколькі пралетарыяту ў гэтым грамадстве траціць няма чаго, пастолькі ён рэвалюцыйны па самой сваёй прыродзе. Я думаю, і спадзяюся, што чытач пагодзіцца з гэтым, што адной рэвалюцыйнасці, г. зн. па сутнасці агрэсіўнасці, усё ж яўна недастаткова, каб прэтэндаваць на ролю вырашальнай сілы грамадскага прагрэсу. Але нават не гэта галоўнае. Важна іншае: парушыўшы прынцып роўнасці бакоў супярэчнасці, Маркс вымушаны трактаваць «барацьбу супярэчнасцей» не як узаемадзеянне, чаго вымагае дыялектыка, а як вульгарнае фізічнае супрацьборства, што выліваецца ў канчатковым выніку ва ўзброенае сутыкненне, у барацьбу на фізічнае знішчэнне. Я бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што з такой трактоўкай закона «барацьбы супярэчнасцей» не пагадзіліся б ні Геракліт, які ўпершыню сфармуляваў яго, ні Гегель, які распрацаваў яго дэталёва. Так, дыялектыка сцвярджае, што вырашэнне любой супярэчнасці адбываецца шляхам рэвалюцыйнага выбуху, скачка, які забяспечвае пераход ад старой якасці да новай. Інакш ніякага развіцця проста не адбывалася б. Але тая форма, якую надаў гэтай дыялектычнай ідэі Маркс, належыць не дыялектыцы, а выключна Марксу. Мне могуць запярэчыць: можна, маўляў, прывесці факты, якія пацвярджаюць слушнасць Маркса. На гэта я адкажу, што можна прывесці і *іншыя факты, якія абвяргаюць* Маркса. Галоўнае ж заключаецца ў тым, як сказаў бы дзядуля Гегель, што не усё тое, што існуе ці мела месца, выяўляе ісціну быцця, г. зн. існуе ці існавала «разумна». Дыялектыка ж у якасці навукі пра законы развіцця прызнае не ўсялякую рэчаіснасць, а толькі «разумную рэчаіснасць», г. зн. рэчаіснасць, якая вынікае з унутранай прыроды з'яў, а не проста мае сваю прычыну. Але пра гэта я гатовы пагаварыць з чытачом як-небудзь іншым разам. Зрэшты, пры жаданні чытач можа звярнуцца да майго артыкула «Логіка жыцця і стэрэатыпы мыслення» («ЛіМ», 1990, № 24), дзе я спрабаваў паказаць, што Кастрычніцкая рэвалюцыя, нягледзячы на факт свайго адбыцця, не была рэчаіснасцю ў дыялектычным разуменні гэтага паняцця, г. зн. не была «разумнай рэчаіснасцю», не была неабходнасцю.

Парушае Маркс і трэці прынцып закона тоеснасці супярэчнасцей. У яго канцэпцыі сацыялізму вырашэнне супярэчнасці паміж буржуазіяй і пралетарыятам адбываецца не шляхам узаемазняцця бакоў супярэчнасці, а шляхам гібелі аднаго з яго бакоў. Калі б Маркс строга прытрымліваўся дыялектыкі, ён атрымаў бы наступную карціну. Буржуазія ў выніку вырашэння гэтай супярэчнасці пазбаўляецца манаполіі на сродкі вытворчасці, а значыць, і магчымасці жыць за кошт чужой працы. Тым самым яна як бы «пераходзіць у пралетарыят». Пралетарыят, наадварот, набывае ўласнасць, а значыць, і перастае быць толькі наёмнай рабочай сілай. Тым самым ён як бы «пераходзіць у буржуазію». Буржуазія і пралетарыят, такім чынам, пазбаўляюцца сваіх класаўтваральных адзнак: няма ўжо ні буржуазіі, ні пралетарыяту, ёсць якасна іншае грамадства з прынцыпова іншай сацыяльнай структурай.

У сілу ўсім нам добра вядомых прычын я кепска дасведчаны ў тым, якія працэсы адбываюцца ў сучасным заходнім свеце. Але нават тая інфармацыя, якая ў мяне ёсць, дае падставы зрабіць выснову, што развіццё сучаснага буржуазнага грамадства ідзе менавіта ў гэтым накірунку, г. зн. у адпаведнасці з законамі дыялектыкі. Няма ўжо там уласцівай класічнаму капіталізму манаполіі буржуазіі на ўласнасць. Што тычыцца рабочых, дык яны ўсё больш робяцца трымальнікамі акцый прадпрыемстваў, а значыць і іх уласнікамі.

Як жа паўстае гэты працэс у канцэпцыі Маркса? У выніку сацыялістычнай рэвалюцыі, гаворыць Маркс, уласнасць буржуазіі экспрапрыіруецца і буржуазія ліквідуецца «як клас». Пралетарыят жа, наадварот, не толькі не ліквідуецца «як клас», але нават устанаўляе сваю дыктатуру. Над кім ён устанаўляе дыктатуру і навошта яна яму патрэбна, калі ён, адпаведна таму ж Марксу, ужо напярэдадні рэвалюцыі складае пераважную большасць насельніцтва — усё гэта цяжка зразумець. І наогул, дзіўная нейкая дыялектыка атрымліваецца ў Маркса. Працэс пераходу супярэчнасцей як працэс іх узаемазняцця паўстае ў канцэпцыі Маркса проста як перамена адваротных бакоў месцамі, як змена матэматычных знакаў: быў плюс — стаў мінус, была дыктатура буржуазіі — стала дыктатура пралетарыяту, была прыватная ўласнасць — стала грамадская ўласнасць, была таварная вытворчасць — стаў натуральны тавараабмен, была «анархія вытворчасці» — стала планавая вытворчасць. Ну проста як у партыйным гімне: хто быў нікім, той стане ўсім. Паўтараю, калі гэта дыялектыка, дык нейкая дзіўная дыялектыка, ва ўсялякім разе не гегелеўская.

Я ахвотна пераадрасаваў бы яе будучаму гісторыку сацыялізму, калі б усе гэтыя пытанні не набылі вострасучасны, палітычны інтарэс. Мы ўвесь час раз за разам чуем: дэфармацыі сацыялізму, дэфармацыі сацыялізму... Не палітыка, а сеансы Кашпіроўскага. Ці не час перастаць, нарэшце, займацца ўнушэннем і самаўнушэннем і паставіць пытанне так, як і належыць паставіць: што менавіта з ідэйнай спадчыны Маркса-Леніна падвергнулася дэфармацыям? Як дэфармацыі сацыялізму асуджаюцца адзяржаўленне грамадскага жыцця, занядбанне культурна-гістарычных каштоўнасцей, стан перманентнай канфрантацыі з усім цывілізаваным светам. Але хіба гэта не прамыя вынікі ідэі дыктатуры пралетарыяту, якую Ленін справядліва лічыў галоўным у марксізме? Калі адкінуць палітычную рыторыку і паглядзець, што за ёй хаваецца, дык сутнасць усіх гэтых заклінанняў пра «дэфармацыі сацыялізму» звядзецца да адной досыць трывіяльнай рэчы: прызнаючы прычыну, мы не хочам прызнаць вынікі, якія яна спараджае. Можна яшчэ прасцей і больш зразумела: жадаючы зведать усю асалоду кахання, мы не хацелі б мець клопатаў і нязручнасцей, якія яму спадарожнічаюць.

Я добра разумею, колькі шчырага ці імітаванага гневу і абурэння выклічуць гэтыя мае нататкі ў служак і прыхаджан марксісцка - ленінскага прыходу. Але гэта лішні раз дакажа толькі тое, што, абвінавачваючы нашу філасофскую і эканамічную навуку ў адыходзе ад жыцця, кіраўніцтва КПСС хацела чуць толькі тое, што яно хацела чуць. Не больш.

# ЦЫМБАЛЫ — ГОЛАС РОДНЫ...

**Штрыхі да партрэта Таццяны ЧАНЦОВАЙ**

Строгая годнасць яе таленту, абаяльнасць твару, прыгожага і адкрытага... Ёсць штосьці захапляючае ў асобе музыканткі Таццяны Чанцовай. І адгукаюцца слухацкія сэрцы на споведзь беларускіх цымбалаў, якім давярае выканаўца свой роздум ды пачуцці.

Бліскучыя поспехі былі ў Т. Чанцовай яшчэ ў першыя гады навучання ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, дзе яна займалася ў класе вядомага цымбаліста Яўгена Гладкова. Перамогі ў конкурсах, першыя выступленні Таццяны на прафесійнай сцэне пераконвалі ў творчай перспектыўнасці маладой выканаўцы.

Пра асобу ў мастацтве гаварыць заўсёды адказна (як, зрэшты, пра асобу наогул). Ды падкрэслю, бадай, галоўнае: у выканаўчым майстэрстве Т. Чанцовай выразна вылучаюцца рысы абвостранага пачуцця традыцыі і сучаснасці, іх духоўных вытокаў, маральнага вызначэння. Сёння, як і раней, Таццяне спадарожнічае поспех. І справа не ў авацыях, чуллівых знаках увагі слухача. Радуе прызнанне тая творчая атмасфера, якая яднае выканаўцу з аўдыторыяй.



Чанцова таленавіта аднаўляе сапраўднае хараство твора, не імкнучыся быць эфектнай за кошт гармоніі свайго мастацтва. Яе інтэрпрэтацыі — заўсёды ўзор яснасці, лагічнасці, эмацыянальнай праявы мастака. З пачуццём радасці сачу за яе творчасцю, і пра тое, што ва ўдасканальванні свайго мастацтва яна не губляе шчырасць і захопленасць, думаю заўсёды, калі Т. Чанцова з'яўляецца на сцэне. Пачынаецца вялікае таінства... Артыстычная культура, абаяльнасць вобраза выканаўцы, логіка руху, — усё «працуе» на мастацкую ідэю! Захоўваючы каноны, цымбалістка як бы падпарадкоўвае іх сабе, сваёй індывідуальнасці. І тым багацей уражанні слухачоў.

Ад амаль імправізацыйных народных тэм да акадэмічных узораў — такі рэпертуар Т. Чанцовай. Яе майстэрства пашырае традыцыйныя ўяўленні пра канцэртныя магчымасці цымбалаў. Выканаўца як бы абвяргае стэрэатыпную думку, быццам бы народны інструмент прызначаны толькі для народнай музыкі. Пад яе чулымі рукамі звычайна кідкія фарбы цымбалаў дапаўняюцца празрыстай акварэллю, надзвычай тонкім піяна... Філігранна адпрацавана кожная дэталь.

Сапраўднае свята для слухача — выкананне Т. Чанцовай старадаўняй музыкі. Стыль барока, ракако... Люлі, Куперэн... Выдатныя кампазітары! Не часта чуем мы гэтыя імёны ў праграмах выканаўцаў на народных інструментах. Прычына, відаць, і ў тэхнічнай складанасці твораў французскіх кампазітараў, і ў тонкасці ўласцівых ім псіхалагічных малюнкаў. Лёгкасць і празрыстасць фактуры, багатай арнаментаванасцю меладычных галасоў, Таццяна яўна звязвае з канкрэтнымі акустычнымі ўласцівасцямі клавесіна — яго ўрыўкавым, хутка згасальным гукам. Трэлі, мардэнты робіць так прыгожа і зграбна, што яны, арганічна яднаючы ўсю меладычную лінію, цудоўна падкрэсліваюць галантны стыль твораў. Своеасаблівыя абразкі — даніна павагі класіцы — здзіўляюць свежасцю, адточанасцю перакладчыкага майстэрства выканаўцы. Ці не пра тое марым мы, калі разважаем пра музычнае майстэрства?

А калі ва ўрачыстай абстаноўцы канцэртнай залы сустракаешся з самым што ні на ёсць блізкім спадарожнікам у радасці і смутку — народным напевам, тады робіцца зусім добра і ўтульна. Тое, што бярэ выток з народнай творчасці, заўсёды кранае сэрца і заўжды зразумелае. Сапраўды, немудрагелістыя тэмы ў натхнёным выкананні Чанцовай робіцца гэткімі маляўнічымі, з мноствам адценняў, што гонар з'яўляецца за багатую на таленты беларускую старонку.

Таццяне давяраюць выкананне сваіх твораў лепшыя беларускія кампазітары. Так, у яе творчасць увайшла музыка І. Лучанка, С. Картэса, В. Войціка, Г. Гарэлавай... Нацыянальным каларытам, выразнасцю выказвання прасякнуты творы гэтых аўтараў. Асабліва гожа гучаць «Акварэль», «Сюіта ў старадаўнім стылі», эцюды В. Войціка, «Успамін» І. Лучанка, «Сюіта» С. Картэса... Вельмі цікавай і адначасова цяжкай была праца цымбалісткі над музыкай Г. Гарэлавай паводле твораў беларускіх паэтаў «Чатыры песні». Роля цымбалаў была ў тым, каб стварыць вобраз інструментальны, адлюстроўваючы ўсе адценні вакальнага цыклу...

Выканаўчае майстэрства Таццяны Чанцовай мае шмат прыхільнікаў у краіне і за яе межамі. Яна як бы ўвесь час у дарозе. Цымбалы яе гучалі амаль ва ўсіх кутках Саюза, іх слухалі ў Англіі, Мексіцы, Швейцарыі, Ісландыі, Бразіліі, Фінляндыі, Польшчы... Не, цяжка пералічыць усе маршруты яе высакароднай місіі. І я пераканаеная: калі беларускае мастацтва за мяжою прадстаўлена гэтай цудоўнай выканаўцай, дык годнасць нашага з вамі краю будзе сцвярджацца і мацнець.

**Альбіна ЦАРОВА.**
**Фота А. КАЛЯДЫ.**

